№ 6 (747) 15 лютага 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады





## Еўрабачанне: Гюнэш засудзілі?

Спявачка з'ехала, не чакаючы фіналу. Перамогу на «Еўрафэсце» прадказальна аддалі заслужанай артысткі Ланской. Старонка 2.

# Хто самы ўплывовы ў беларускім бізнэсе?

На чале «топ-200» мільянеры **Уладзімір Пефціеў, Юрый Чыж**. **Старонка 9.**



КАЛАЖ СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

Тэндэнцыі

## «Рукі беларускіх уладаў будуць у крыві, калі ён памрэ»

21 лютага пачынаецца суд на чалавекам, што ўзняў **бел-чырвона-белы сцяг**.

Працэс над віцебскім будаўніком пачнецца ў аўторак а 10.30 у Першамайскім судзе абласнога цэнтра. Мяркуецца, што працэс можа расцягнуцца на чатыры дні. Апошняя дата – 24 лютага.

На праваслаўнае Раство 2010 года Сяргей Каваленка ўзняў вялізны бел-чырвона-белы сцяг над галоўнай навагодняй ялінкай Віцебска. Яго затрымалі, але сцяг пабачылі многія, бо нават міліцыя доўга яшчэ не ведала, як зняць сцяг.

Мужчыну асудзілі да трох гадоў «хатняй хіміі». Гэта значыць, абавязковыя ўлікі ў РУУС. Вечарам ад Каваленкі патрабавалі быць дома ад 19 гадзіны, былі іншыя абмежаванні. Сам ён здымаў на камеру ўсіх міліцыянтаў, што прыходзілі да яго дахаты, каб не дапусціць правакацый.

19 снежня летась Каваленка быў арыштаваны паўторна. На гэты раз яго абвінавацілі ва ўхіленні ад адбыцця пакарання. У СІЗА сябра КХП-БНФ абвясціў галадоўку. Прычым, быў настроены вельмі рашуча. Адміністрацыі калоніі нават давялося карміць яго прымусова. Так калісьці мучылі савецкіх дысідэнтаў.

**Працяг на старонцы 7.**

Грамадства

### «Люблю Беларусь»

«Малады фронт» раздаў штогадовыя прэміі. Міліцыя свята падпсавала.
**Старонка 3.**



Апытанне

### Ці магчымыя ў Беларусі пратэсты, як у Маскве?

Што пра гэта думаюць мінчукі.
**Старонка 4.**



Крымінал

### Міліцыянт, што не ўзяў адбіткі пальцаў Канавалава

...асуджаны на 3 гады.
**Старонка 10.**



Дыярыуш

### Мой маленькі сусвет

Я — мама. У гэтых словах — найвялікшая радасць.
**Старонка 12.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Гюнэш засудзілі?



Алена Ланская спачатку выйграла «Славянскі базар».

PHOTO.BYMEDIA.NET

«Еўрафэст»: перамогу прадказальна аддалі заслужанай **артыстцы Ланской**.

Алёна Ланская паедзе ад Беларусі на «Еўрабачанне» ў Баку. Ёй аддалі першае месца на «Еўрафэсце» 14 лютага.

Выступы канкурсантаў, дзеля якіх, уласна, і праводзіўся «Еўрафэст», занялі паўгадзіны. Астатні час спявалі пераможцы «Еўрабачання» былых гадоў.

Склалася ўражанне, што перамога ніяк не ўразіла Ланскую — такі спакой захоўвала спявачка падчас абвяшчэння. Ці гэта была ўпэўненасць у выніку галасавання?

На мінулым тыдні Ланская апынулася ў цэнтры скандалу: віцебская «вертыкаль» рассылала па прадпрыемствах патрабаванне папулярызаваць гэтую спявачку і галасаваць за яе.

Прадзюсар Ланской — Аляксандр Шакуцін, які ўваходзіць у дзясятку найбагацейшых людзей краіны.

Гурт Litesound апынуўся на 2-м месцы, хоць глядацкую падтрымку, мяркуючы па рэакцыі залы, яны мелі найбольшую.

І Гюнэш Абасава рэагавала эмацыйна: даведаўшыся пра сваё трэцяе месца, адразу з'ехала: так і не з'явілася на сцэне ў фінале. Яе песня глядзелася выйгрышна. Многія чакалі яе перамогі. Менавіта Гюнэш выходзіла на першыя месцы ў інтэрнэт-апытанках. Дый сам факт, што яна азербайджанскага пахаджэння, даваў ёй дадатковыя шанцы ў Баку.

Пасля цырымоніі «НН» дазванілася да музычнага агента Гюнэш, аднак ён паведаміў, што ніякіх каментароў спявачка даваць не будзе. «Можа быць, заўтра або паслязаўтра», — сказаў агент. Сама Гюнэш тэлефон не бярэ. У слухаўцы рынгтонам, дарэчы, гучыць яе ўласная песня.

## Спявачка з'ехала, не чакаючы фіналу

Закрываў «Еўрафэст» міністр культуры Павал Латушка — на дзвюх мовах: англійскай і беларускай. Пасля чаго Ланская яшчэ раз праспявала сваю песню All my Life і скончыла словамі «Перамога наша!»

**Юрась Ускоў**

# Мінскія епархія будзе выглядаць як пяцізоркавы гатэль



Нічога асаблівага, але і **не аскетычна**.

Архітэктурна-будаўнічая кампанія Юліі Скарынінай апублікавала рэндары інтэр'ераў будынку Мінскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы. Епархія ўвогуле — гэта рэзідэнцыя мітрапаліта.

«Афіцыйная рэлігія нашага архітэктурнага бюро — хрысціянства, а канфесія — праваслаўе. Таму праектаваць Мінскую епархію было для нас вельмі ганарова», — адзначаецца на сайце. Але інтэр'еры даволі банальныя: вельмі падобна выглядаюць, напрыклад, залы мінскага гатэля «Краўн-плаза». Калі б не сціплыя абразы на сценах, і не падумаў бы, што гэта царкоўны дом.

Інтэрнаўтаў жа найболып зачапіла пышнасць будынка. «У такіх апартаментах толькі пра Бога і думаць», — напісаў на нашым сайце чытач Чылімка.

**Сяргей Гезгала**

### З пошты Рэдакцыі

## Кожны мільянер!

Кожны наш пенсіянер
Стаў цяпер міліянер.
Трэба трошкі пачакаць:
Мільярдэрам зможа стаць!

Аўтар падпісаўся як «Літвінбеларус» і змясціў верш у каментарах на сайце nn.by. Чыстую праўду напісаў чалавек!

### Сцісла

**Аналіз пакажа**

Створаныя рабочыя групы па аналізу складу чэргаў на жыллёвае будаўніцтва. Аблвыканкамам і Мінгарвыканкаму даручана да 17 лютага перагледзець спісы ЖБПК і грамадзянаў, якія стаяць у чарзе.

**Бакіева трэба шукаць у Раўбічах?**

Прадстаўнікі рыэлтарскіх кантораў неафіцыйна пацвярджаюць, што былы кыргызскі лідар Курманбек Бакіеў купіў за 2 мільёны даляраў элітны катэдж у Раўбічах пад Мінскам. Падрабязнасці здзелкі невядомыя, афіцыйных пацвярджэнняў няма. Трапіць на тэрыторыю, дзе ў Раўбічах месцяцца элітныя катэджы, досыць складана: уезд у ахоўную зону — праз шлагбаўм, які падымаецца адмысловым чыпам.

**МБ; радыё "Свабода"**

### Імпрэзы

## Прэзэнтацыя аўдыёдыску дзіцячых казак

**Аўдыёдыска «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі» 19 лютага (нядзеля) прэзентуюць а 14.00** у мінскай кнігарні «логвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а).

На дыску — 12 казак аўтарства пісьменніка-«талакоўца» Сяргея Вітушкі, які жыве ў Вільні. Спевакі Алег Хаменка, Ганна Хітрык, Лявон Вольскі, Алесь Камоцкі, Зміцер Вайцюшкевіч, Сяргей Сокалаў-Воюш, пісьменнікі Адам Глобус, Андрэй Хадановіч, Уладзімір Арлоў, Тамара Лісіцкая, пасол Швецыі Стэфан Эрыксан, культавая дыктарка Беларускага тэлебачання Зінаіда Бандарэнка прачытаюць гэтыя казкі.

**СМ**

### Самае чытанае за 8-14 лютага

1. «У капцюрох ГПУ»: затрыманыя 30 удзельнікаў Літвінскага клуба
2. Цацкі пратэставалі супраць Лукашэнкі на плошчы Незалежнасці — фотафакт
3. Бел-чырвона-белыя налепкі на машынах выклікаюць шал
4. 20 найлепшых здымкаў 2011 года
5. Будаўніцтва па-беларуску: Венесуэла ў шоку
6. З Джыоевай расправіліся «метадам Някляева»
7. Залатая чыгунка: 265 тысяч рублёў за 1 км дарогі
8. Познер расказаў, як вячэраў з Лукашэнкам, ды параўнаў яго са Сталіным — відэа
9. Новыя хіты ад Каткавец: Хлопцам нехта з дзяўчат падабаецца, хтосьці не
10. Памерла Уітні Х'юстан. Яна сама гасіла сваё свята

# «Прагрэс»: Еўрапейцам паабяцалі вызваліць ключавога палітвязня

Ці чакаць новага **пацяплення з Захадам**?

Пакуль прадстаўнікі апазіцыі спрачаюцца, ці ратуюць беларусаў санкцыі, краіну наведаў Дырэктар дэпартамента Еўрапейскай службы замежных дзеянняў Гунар Віганд. Той самы, які месяц таму агучваў пра пашырэнне крытэраў для ўнясення беларускіх чыноўнікаў у спіс неўязных.

За апошні год ужо паспелі адвыкнуць ад візітаў высокапастаўленых еўрапейскіх чыноўнікаў. Таму прапускаць гэты ваяж як шараговую падзею было нельга.

### Выбудоўванне далейшага дыялогу

Перш-наперш Віганд спаткаўся з прадстаўнікамі ўлады. Сухі прэс-рэліз яго сустрэчы з міністрам Сяргеем Мартынавым паведамляў: «Бакі абмеркавалі бягучыя пытанні беларуска-еўрапейскіх адносін і магчымыя падыходы да выбудоўвання далейшага дыялогу».

Ужо падчас сустрэчы з апазіцыяй сп.Віганд крышку прыадчыніў дзверы тых перамоваў. Перш-наперш ён адзначыў, што ўлады бліжэйшым часам паабяцалі выпусціць «кагосьці з ключавых апазіцыянераў». Тыдзень ужо прайшоў ад сустрэчы, але абяцанне не выкананае.

Хутчэй за ўсё, гаворка вядзецца ці пра кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, ці кіраўніка яго штаба Змітра Бандарэнку. Абодва гэтыя палітыкі напісалі прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Калі будзе так, то прагрэс сумнеўны.

### Пісаць прашэнні

Еўрапейцы ж запэўнілі, што ні пра які палітычны дыялог з беларускімі ўладамі не можа быць гаворкі, пакуль за кратамі трываюць палітвязні. Дарэчы, характэрна, што на мінулым тыдні з заклікамі да арыштаваных пісаць прашэнні звярнуліся лідар КХП-БНФ Зянон Пазняк і палкоўнік Уладзімір Барадач. Абодва прапаноўваюць не цыкліцца на «прашэннях», і, каб выратаваць здароўе, лічаць магчымым іх напісаць.

«Разумныя людзі даўно раяць ім не гуляць у напарстак з катам, напісаць яму, што ён хоча — ліст аб памілаванні. Усе ж ведаюць, якім спосабам выбівалі ліст. Маральная цана такога ліста ніякая», — зазначыў Зянон Пазняк.

Тым не менш, палітык-эмігрант пераконаны, што нават прашэнне не гарантуе вызвалення. «Лукашэнка будзе чакаць кан'юнктуры на рынку», — лічыць Пазняк.

Такім зручным момантам могуць стаць парламенцкія выбары. Чатыры гады таму таксама пад выбары, з турмы адпусцілі Казуліна і іншых палітвязняў. Праўда, у парламенце апазіцыя тады так і не з'явілася, але санкцыі ўсё адно былі замарожаныя на паўгода.

### Без балбатуноў

Сёлета Лукашэнка кажа, што «балбатуноў у палаце не будзе». Няцяжка здагадацца, што маюцца на ўвазе ягоныя праціўнікі. Віганду ж паабяцалі: мадэрнізацыя палітычнай сістэмы пачнецца пасля выбараў. Дзіўныя тэрміны. Абяцанкі-цацанкі...

У Дзень усіх закаханых Лукашэнка меў сустрэчу з прадстаўнікамі КДБ, дзе таксама закрануў пытанне дыялогу: «Пэўная дынаміка — не новая для чэкістаў, кіраўніцтва краіны — у нас адбываецца ў адносінах з Захадам, ЗША, іншымі дзяржавамі. Гэта не можа не ўплываць на сітуацыю ўнутры нашай краіны, і гэта не можа не ўваходзіць у кампетэнцыю галоўнай спецслужбы нашай дзяржавы», — заявіў кіраўнік краіны. Інтэрпрэтаваць такія словы можна па-рознаму.

Больш дакладных цытат з ягонага выступу на момант здачы нумара ў друк не з'явілася.

### Палітычны і эканамічны хаос

Самі ж чэкісты адпальвалі па поўнай. Перш за ўсё прадстаўнікі ведамства сказалі, што сёлета ўдалося «не дапусціць спаўзання краіны ў зону палітычнага і эканамічнага хаосу». «Беларускі народ, нягледзячы на ўсе старанні «пятай калоны» і іх замежных спонсараў, прадэманстраваў чарговы раз мудрасць», — так нашчадкі «жалезнага» Фелікса апісалі наступствы трохкратнай дэвальвацыі і абвалу цэн.

Выратавалі краіну, адным словам. Але грошай усё адно не хапае, даводзіцца прасіць у МВФ. У канцы лютага Беларусь наведае місія Фонду. Канкрэтныя лічбы пакуль не называюцца. Наша краіна ўжо цяпер вінная МВФ больш за 3 мільярды даляраў.

Нейкія пункты судакранання Брусэля і Мінска можна назіраць ужо цяпер. «Спадар Віганд запэўніў, што ЕС будзе надаваць увагу не толькі надзённым палітычным пытанням, але і мадэрнізацыі краіны ў іншых кірунках — эканоміцы, сацыяльнай сферы», — кажа лідар БНФ Аляксей Янукевіч. Для гэтай мэты Еўрасаюз плануе запрашаць у працоўныя групы і прадстаўнікоў урада.


Гунару Віганду ў Мінску абяцалі многае.

**Зміцер Панкавец**

# «Люблю Беларусь»: Дзіянаў, Коктыш, «Будзьма», Шаркоў

Ужо ў трэці раз «Малады фронт» **уручыў прэмію** «Люблю Беларусь».

Яе заснавалі тады, калі ўлады асабліва жорстка пачалі разганяць вулічныя шэсці на Дзень святога Валянціна. Вырашылі, што свята закаханых лепш праводзіць з блізкімі людзьмі, чым у ізалятары на Акрэсціна.

Без прыгод, праўда, не абыходзілася ні разу. Першы раз прэмію планавалі ўручаць у гатэлі «Краўн Плаза», але ў апошні момант адміністрацыя гасцініцы скасавала дамову. Вырашылі ўручаць традыцыйна — на Плошчы. З лаўрэатаў прыйсці адважыўся толькі Міхась Пашкевіч, якому разбілі акуляры і на пару дзён забралі ўзнагароду.

Летась было спакайней толькі ў тым плане, што не было затрыманняў. Але статуэткі спецназ усё адно паспеў перахапіць. Сёлета за дзве гадзіны да пачатку мерапрыемства проста ў пад'ездзе сядзібы ПЭН-цэнтра затрымалі Івана Шылу. У хлопца вісела «пазыка» ў 22 сутак яшчэ за летнія акцыі пратэсту.

Тым не менш, у астатнім мерапрыемства прайшло без праколаў. Хоць і ў трывожных чаканнях — пад вокнамі дзяжурыў спецназаўскі бусік з вядомым маёрам міліцыі Максімам Грышчанкам.

Сябра «Гавары праўду» Міхась Пашкевіч яшчэ запытаўся ў Грышчанкі: «Ну што, забралі Івана?» «Не прыставайце, Міхаіл», — быў кароткі адказ міліцыянера. Усё мерапрыемства сілавікі так і правялі на марозе. Відаць, чакалі, што ўсё ж выйдуць «маладафронтаўцы» на шэсце шчыльнымі радамі.

Што да пераможцаў, то далёка не ўсе лаўрэаты змаглі атрымаць прэмію. Напрыклад, у намінацыі «Змагар года», як вызначыць, хто яе больш варты: **Саннікаў, Дашкевіч, Статкевіч, Васьковіч**? Сапраўды, не вельмі карэктна. Перамаглі ўсе.


«Лепш заразіцца каханнем, чым атрымаць бацылу нянавісці»

Марына Коктыш атрымала ўзнагароду за смелае пытанне Лукашэнку.

Сяргей Гудзілін


Маёр Грышчанка (у кепцы) свята падсапсаваў.

Сяргей Гудзілін

У «беларусізацыі» прыз узяў гамяльчук **Ігар Случак**, які даставаў дзяржаўныя ўстановы краіны патрабаваннем адказваць на ягоныя запыты па-беларуску. Дамогся свайго — атрымаў узнагароду.

У Pro-Belarus адзначаецца чалавек ці арганізацыя, якая найбольш спрыяе вядомасці пра Беларусь сярод замежнікаў. Здавалася б, у дзяўчат з «Фемен» не будзе канкурэнтаў. У выніку прыз усё ж накіруецца за паўднёвую мяжу Беларусі — былому паслу Украіны **Раману Бяссмертнаму**.

Пераможца ў намінацыі «Палітыка» таксама ўзнагароду атрымаць не змог асабіста. Гэта **Вячаслаў Дзіянаў** за «маўклівыя акцыі». Цікава, што неяк раптоўна знік і ягоны таямнічы прадстаўнік.

Не застаўся без узнагароды арганізатар «Стоп-бензіну» **Арцём Шаркоў**. Ён перамог у намінацыі «Грамадская чыннасць».

У «Спорце», на жаль, лаўрэат ужо не атрымае ўзнагароды ніколі. Кіраўнік федэрацыі амерыканскага футбола **Ігар Жукоўскі** загінуў у аўтакатастрофе яшчэ ў кастрычніку. Менавіта стараннямі Ігара ў Мінску з'явіўся клуб з прыгожай назвай «Ліцвіны».

Нечаканай таксама стала перамога ў «Культуры». Калі сярод намінантаў ёсць Сяргей Міхалок, то думалася, што наўрад яму хто складзе канкурэнцыю. Аднак журы аддала перавагу **Юліі Ляшкевіч і кампаніі «Будзьма»** за мультфільм па гісторыі Беларусі. Варта адзначыць, што ў культуры трэці год запар канкурэнцыі «Будзьме» не назіраецца.

У журналістыцы першае месца атрымала **Марына Коктыш** з «Народнай волі» за смелае пытанне Аляксандру Лукашэнку падчас снежаньскай прэс-канферэнцыі. «Лепш заразіцца каханнем, чым атрымаць бацылу нянавісці», — сказала Марына.

**ЗП**

# З Джыоевай расправіліся «метадам Някляева»

**АМАП захапіў** штаб Джыоевай напярэдадні яе інаўгурацыі.

Сілавікі ўзялі штурмам штаб Алы Джыоевай, якая перамагла вызначанага Масквой фаварыта на прэзідэнцкіх выбарах у Паўднёвай Асеціі. Гэта адбылося ў чацвер, напярэдадні інаўгурацыі Джыоевай, прызначанай на пятніцу.

Гэтыя падзеі ў Цхінвалі да болю нагадалі драму ў Мінску 19 снежня 2010.

Пры штурме спецназаўцы не надта глядзелі, білі прыкладамі па галаве. У выніку Джыоева знепрытомнела і была дастаўлена ў бальніцу. Праўда, у адрозненне ад лукашэнкаўцаў, сілавікі ў Цхінвалі пакінулі Джыоеву ў рэанімацыі.

Пасля палітык заявіла, што мэтанакіравана яе ніхто не біў, аднак маглі «зачапіць».

Паўднёвая Асеція фармальна абвешчаная незалежнай дзяржавай, але на справе гэта тэрыторыя, акупаваная расійскімі войскамі. Абавязкі прэзідэнта там выконвае цяпер грамадзянін Расіі — прысланы з Масквы прэм'ер-міністр Броўцаў.

Менавіта ён мусіў сачыць за выкананнем кампраміснага пагаднення між Джыоевай і Крамлём. Прыхільнікі Джыоевай палічылі сябе падманутымі і вырашылі правесці інаўгурацыю.

Броўцаў і падкантрольны Маскве КДБ Паўднёвай Асеціі звінавацілі Джыоеву ў «спробе дзяржаўнага перавароту».

На выбарах Джыоева атрымала каля 60% галасоў. Яна таксама стаяла на прарасійскіх пазіцыях, але па-іншаму бачыла будучыню Асеціі. Напрыклад, яна пярэчыла ўвядзенню расейскай мовы як другой дзяржаўнай.

Мікола Бугай



Ала Джыоева таксама была прарасійскай, але па-іншаму бачыць будучыню Асеціі.

**Фотафакт**




**Цацкі пратэставалі супраць Лукашэнкі на плошчы Незалежнасці**

Моладзь кампаніі «Гавары праўду» правяла яркую акцыю на Плошчы Незалежнасці ў Мінску. На клумбе каля аўтобуснага прыпынку яны пасадзілі мяккія цацкі з плакатамі ў руках. Цацачныя мядзведзікі і сабачкі патрабавалі свабоды прэсы, вызвалення палітвязняў і нават ШОС!

«Плюшавыя пратэстанты былі затрыманыя міліцыяй. Верагодна, адміністратыўныя справы супраць іх заводзіцца не будуць», — адзначаюць арганізатары акцыі.

## Алег Корбан кінуў выклік Анатолю Лябедзьку

**Выбары старшыні**
АГП не будуць безальтэрнатыўнымі.



«Улічваючы сітуацыю ў АГП з нязменным кіраўніцтвам старой каманды, ігнараваннем з яе боку ідэйных прапаноў і заўваг іншых сяброў партыі, а таксама адсутнасцю паўнавартаснай працы дзеля дасягнення мэтаў АГП, лічу слушным зарэгістравацца кандыдатам на вышэйшую партыйную пасаду», — такую заяву зрабіў Алег Корбан.

Хлопцу 27 гадоў, у апазіцыі ён ад 15-гадовага ўзросту. Доўгі час быў сябрам «Маладога фронту». У час арышту Зьмітра Дашкевіча (2006—2008) з'яўляўся адным з кіраўнікоў арганізацыі, за што зазнаў крымінальны пераслед. Аднак, як і паплечнікі, не быў асуджаны да турэмнага зняволення.

Апошнія гады Алег Корбан — сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў кіраваў мінскім штабам Яраслава Раманчука. Пасля Плошчы апынуўся ў СІЗА КДБ, але быў вызвалены сярод першых, як Дзмітрыеў, Рымашэўскі, Кобец, Паўлаў.

Адразу па вызваленні ў студзені 2011 Корбан узначаліў «Маладых дэмакратаў», крыло АГП для маладзейшых.

Анатоль Лябедзька кіруе АГП ужо 12 гадоў. Апошнія выбары ўвогуле праходзілі на безальтэрнатыўнай аснове. Тым не менш, Лябедзька кажа, што не стаміўся ад палітыкі, а нават здольны даць фору маладым. Мае вялікі аўтарытэт унутры партыі, з гонарам прайшоў выпрабаванне «амерыканкай».

З'езд мае адбыцца пры канцы сакавіка ці на пачатку красавіка.

Зміцер Панкавец

# Ці магчымыя ў Беларусі пратэсты, як у Маскве?

**Апытанне на вуліцах** сталіцы.

*1. Як вы ставіцеся да пратэстаў у Маскве?*

*2. Ці магчымыя масавыя акцыі пратэсту у Беларусі?*



**1.** Гэта не ад таго, што ім есці няма чаго, не ад таго, што ўсё так дрэнна. Проста ім здалося, што іх правы былі парушаны. **2.** Былі да гэтага перадумовы. І мне здаецца, цалкам верагодна, што паўторыцца.



**1.** Кожны мае права выказваць сваё меркаванне, я так лічу. Нават калі яно не супадае з меркаваннем большасці. Меншасці таксама маюць свае правы. **2.** Напэўна, у нас іншы менталітэт, таму такіх маштабаў не будзе.



**1.** Я лічу, што кожны чалавек мае права казаць тое, што ён думае, і змагацца за свае словы. Калі ён з чымсьці не згодны, то ён мае права пра гэта сказаць. **2.** Спадзяюся, што так.



**1.** Напэўна, людзі маюць права выходзіць і абараняць свае інтарэсы, тое, у што яны вераць. **2.** Не думаю, што гэта магчыма ў дадзенай сітуацыі. У нас не настолькі напружаная сітуацыя, як у Маскве зараз.



**1.** Стаўлюся нейтральна. Вельмі апалітычны чалавек. **2.** Не. Бо мы вельмі пасіўныя. Я нават ведаю па сабе: жыву спакойненька — і добра.



**1.** Людзі павінны неяк адстойваць правы, каб выбары праходзілі правільна і без усялякіх падтасовак. Лічу гэта даволі лагічным. **2.** Наш народ ужо паказаў, што не ў стане сабраць 100-тысячны натоўп. Але я думаю, усё яшчэ можа быць.



**1.** Я вельмі добра стаўлюся да гэтага. Калі народ чымсьці не задаволены, то ён павінен гэта абазначыць нейкімі сваімі дзеяннямі. Тое, што адбываецца ў Расіі, гэта вельмі добра. **2.** У нас усё магчыма. Але ўсё залежыць ад таго, калі спыніцца запужванне народа праз масавыя СМІ, праз БТ, праз газеты.



**1.** Я стаўлюся да гэтага станоўча — насельніцтва выказвае сваё меркаванне. **2.** Я думаю, мы больш стабільная рэспубліка, менш разрозненая па сваіх панцяцях, па сваёй ідэалогіі. Таму ў нас такое наўрад ці магчыма.



**1.** Не трэба выходзіць. Ведаю, што ў інтэрнэце шмат пра гэта пішуць. Але і выбары павінны быць чэснымі, палюбому.



**1.** Нармальна, мітынгуюць хай мітынгуюць. Хочуць людзі пахадзіць пагаварыць — няхай ходзяць. **2.** А чаму не? Магчыма! Выйдуць, разгоняць, паліцыя-міліцыя, дубінкамі — і ўсё, разышліся.

**1.** Калі людзі пратэстуюць, значыць ім нечага не хапае. Значыць, нешта не так



і трэба змяняць. Ну а у нас мітынгі вы самі ведаеце — за шкірку і ў «гэту самую».



**2.** На сённяшні дзень, мне падаецца, не. Тлумачыцца, можа быць, нацыянальным характарам, гістарычнымі працэсамі, тым, што сучасныя людзі не ведаюць сваёй гісторыі і ўсё, што ім падаецца, яны ўспрымаюць, як наіўныя дзеці. Павінен прыйсці час, я так лічу.



**2.** На жаль, не. Давайце паляскаем у далоні і адразу хутка зразумеем, чаму.



**2.** Былі ж акцыі пратэстаў, таму ёсць шанец, што так.



**2.** Было калісьці магчыма. Але зараз не ведаю нават. За нашым рэжымам невядома, што будзе заўтра.

Аксана Рудовіч

# Беларусы так і не перасели на расійскія аўто

Лідар продажаў — румынская «Дачыя Логан».

Беларуская аўтамабільная асацыяцыя падсумавала вынікі продажаў новых машын за мінулы год. Дылеры з радасцю канстатавалі, што рынак прадэманстраваў рост, нягледзячы на тое, што летась правілы гульні для аўтабізнэсу моцна змяніліся ў чарговы раз. Калі ад 1 студзеня 2010 года былі істотна ўзнятыя мыты на ўвоз машын юрыдычнымі асобамі, то ад 1 ліпеня 2011 такія самыя мытныя стаўкі былі ўведзеныя і для фізічных асобаў.

Усе пералічаныя змены адбыліся па патрабаванні Расіі. Па-першае, каб абараніць расійскі рынак ад танных іншамарак, якія завозіліся праз Беларусь. Па-другое, каб перасадзіць беларусаў з «Фальксвагенаў» на «Лады» і атрымаць для ўласнай вытворчасці дадатковы дзесяцімільённы рынак збыту. Ці ўдалося расійцам дасягнуць гэтай мэты?

### Цяжкі лёс расійскіх аўто

Летась у нашай краіне было прададзена 16 275 аўтамабіляў. Для параўнання, у 2010 продажы склалі 12 889 машын. Але насуперак жаданням расійцаў доля іх аўтапрама на рынку знізілася.

Гісторыя ўзаемаадносінаў беларусаў з расійскімі аўтамабілямі напоўненая рэзкімі паваротамі. У 2009 годзе, да павелічэння мытаў, сумесная доля ВАЗ, ГАЗ і УАЗ на рынку новых аўтамабіляў склала ўсяго 11%. Пасля падаражання заходніх машын расійскія аўто здабылі чаканую папулярнасць. У 2010 годзе двума самымі прадаванымі апаратарамі былі ВАЗ і ГАЗ. Разам з УАЗам яны занялі 29% рынку новых аўто, малюючы вялікія планы на будучыню.

Але летась удача зноў адвярнулася ад расійцаў — толькі 15,5% продажаў. Чакаючы, што з 2012 аўтамабілі падаражэюць яшчэ на 15% праз адмену падатковых ільготаў, беларусы закупіліся машынамі наперад, але абралі замежныя брэнды, якія лічацца больш надзейнымі.

**Дачыя Логан (Dacia Logan)**

Аўтамабіль задумваўся як бюджэтны, коштам 5 тысяч еўра. Яго вытворчасць пачалася ў 2004 у Румыніі на заводах Dacia, а праз год адкрылася і ў Расіі (пад назвай «Рэно Логан»). З таго часу па ўсім свеце прададзена больш за 1 мільён аўтамабіляў. У розных краінах яна прадаецца пад брэндамі «Рэно» і «Нісан». Машына адаптаваная да дрэнных дарог у краінах «трэцяга свету», таму карыстаецца попытам і ў Азіі, і ў Паўднёвай Амерыцы.

### Нямецкая класіка

Хто вырваўся на лідарскія пазіцыі па выніках 2011? Лідарам продажаў сталі «Фальксвагены» (15,4% рынку) і ВАЗы (8,5%), якія крыху апярэдзілі «Рэно» (8,1%). У пяцёрцы таксама «Форд» і «Аўдзі» (па 5,4%).

У параўнанні з пазамінулым годам сітуацыя змянілася кардынальна. Тады, як было адзначана вышэй, першынство засталося за ВАЗамі і ГАЗамі (11,9% і 11% продажаў адпаведна), якія абагналі «Фальксваген» (9,4%), кітайскі Daewoo (7,7%) і УАЗ (6%).

Разам з тым варта прызнаць, што статыстыка прададзеных еўрапейскіх аўтамабіляў часам уключае ў сябе машыны, сабраныя на заводах у Расіі.

### Румыны замест кітайцаў

Першае месца па продажах у нашай краіне заняла румынская «Дачыя Логан» (630 машын). Гэта адзін з самых недарагіх нерасійскіх аўтамабіляў. Яго мінімальная цана ў дылераў складае $10 400. Цікава, што «Логан» быў лідарам продажаў у Беларусі яшчэ ў 2007 годзе.

**53% новых аўтамабіляў было прададзена ў Мінску »**


«Дачыя Логан»

«Дачыя Сандэра»



«Лада Прыёра»



Другое месца ў «Лады Прыёра» (426 машын), якая ў мінскіх дылераў каштуе ад $10 тысяч. На тым самым румынскім заводзе, на якім выпускаюць «Логан», робяць і «Дачыя Сандэра», якая заняла трэцяе месца па продажах (409 машын). Яны каштуюць ад $12 тысяч. Усё гэта параўнальна недарагія аўтамабілі, якія не карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў Заходняй Еўропе. Наступныя ў спісе продажаў — уседарожнік «Лада Ніва» (382) і «Фальксваген Пола Седан» (360).

А вось абсалютны лідар мінулага года — гарадскі мікралітражны «Дэу Мацiз» — страціў сваю папулярнасць. У 2010 годзе іх прадалі больш за 700, але летась продажы скараціліся ўдвая. Хоць цана кітайскага аўтамабіля ўсё яшчэ застаецца самай нізкай на рынку — $6400 за базавую мадэль.

**Ягор Марціновіч**

**Лідары продажаў-2011 у суседзяў**

**Расія** — прададзена 2 655 тысяч новых аўто

| | | |
|---|---|---|
|  |  |  |
| Lada Kalina | Lada Priora | Lada Samara |
| 143 000 | 139 000 | 122 000 |

**Польшча** — прададзена 320 тысяч новых аўто

| | | |
|---|---|---|
|  |  |  |
| Skoda Octavia | Skoda Fabia | Opel Astra |
| 16 000 | 11 000 | 11 000 |

**Украіна** — прададзена 212 тысяч новых аўто

| | | |
|---|---|---|
|  |  |  |
| ЗАЗ Lanos | Skoda Octavia | Chevrolet Aveo |
| 10 000 | 7 000 | 6 000 |

## «Белавія» абяцае сапраўдныя лаўкосты

Але пакуль звыштанныя авіябілеты ёсць толькі да Масквы.

Нацыянальная авіякампанія «Белавія» ўкараняе элементы сістэмы лаўкост-перавозак, заявіў генеральны дырэктар авіякампаніі Анатоль Гусараў.

«Усё больш авіякампаній пачынаюць выкарыстоўваць гібрыдную мадэль перавозак — як класічнай авіякампаніі, так і лаўкост, – сказаў Гусараў. — Мы нейкія элементы ўжо пачалі ўкараняць, аднак у поўным аб'ёме гэтую працу завершым да лета. Гэта дасць магчымасць ужываць нізкія тарыфы нароўні з высокімі».

Пакуль што мінімальны тарыф існуе толькі на Маскву — 43 еўра ў адзін бок. Гэта параўнальна з цаной праезду чыгункай. Патроху змяншаюцца тарыфы і ў іншыя гарады. Напрыклад, даляцець да Варшавы, Рыгі ці Санкт-Пецярбурга па акцыі можна за 60 еўра.

Але сапраўдныя еўрапейскія лаўкосты, якія дзейнічаюць у Вільні, Каўнасе, Кіеве, Варшаве ўсё адно карыстаюцца меншымі тарыфамі. Напрыклад, злётаць з Вільні ў Барселону і вярнуцца назад можна за $50.

**Лаўкосты** (анг. Low Costs)– гэта танныя авіяпалёты за кошт адмовы ад некаторых паслуг: газет у салоне, абеду і г.д.

**ЯМ**

## Стаўка рэфінансавання пайшла ўніз

Яна апусцілася ад 45% да 43% гадавых.

Па меркаванні старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай, сітуацыя на фінансавым рынку стабілізуецца. У сувязі з гэтым стаўка рэфінансавання будзе змяншацца. Першы раз гэта адбылося 15 лютага — з 45% да 43% гадавых. Аўтаматычна знізіліся і стаўкі па крэдытах і дэпазітах. Нацбанк спадзяецца на запавольванне інфляцыі.

Летась стаўка павялічвалася аж-но 12 разоў, у выніку чаго Беларусь трымала сусветны рэкорд па яе велічыні. На другім месцы Конга, якое адстае ад нашай краіны ў два разы.

**ЯМ**

## Аднапавярховая Беларусь

Гараджанам прапануюць будавацца ў прыгарадах.

Беларускую жыллёвую палітыку чакае чарговы разварот. Дзяржава збіраецца не абмяжоўвацца будаўніцтвам шматпавярховых дамоў у спальных мікрараёнах. «Урад паставіў задачу развіваць малапавярховую забудову ў прыгарадзе», — заявіў міністр архітэктуры і будаўніцтва Беларусі Анатоль Нічкасаў.

Па яго словах, стаіць задача пераарыентаваць прамысловасць на выпуск канструкцый індывідуальных жылых дамоў. Такія вытворчасці могуць адкрыцца ў кожнай вобласці.

**ЯМ**

### Сцісла

**Новыя грошы**

Дакладней, не зусім новыя. Толькі купюра вартасцю 200 тысяч рублёў, што з'явіцца ў абарачэнні ў сярэдзіне сакавіка.

**Пачалася пагоня за ВУП**

Валавы ўнутраны прадукт за студзень вырас на 3,6% у параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года. Згодна з планамі, агучанымі чыноўнікамі, за год ВУП мусіць вырасці на 5—5,5%.

**Грэцыя ідзе на саступкі**

Улады Грэцыі згадзіліся скараціць пенсіі і заробкі, а таксама звольніць 150 тысяч чыноўнікаў, каб апшчадзіць 3 мільярды еўра. Аднак гэтага мала, таму краіна зноў просіць Еўрасаюз аб дапамозе. Калі краіна не атрымае да 20 сакавіка 15 мільярдаў еўра, будзе абвешчаны дэфолт.

**ЯМ**

# Будаўніцтва па-беларуску: Венесуэла ў шоку

**Гучны скандал** разгараўся ў Венесуэле ў сувязі з дзейнасцю кампаніі «Белзамежбуд» (БЗБ). Абяцалі збудаваць 17 500 кватэр, здадзена ўсяго 4%.

Мясцовыя журналісты абвінавачваюць яе ў кепскім стаўленні да працоўных і кепскай якасці працы. «Беларуская мафія» — так называецца адзін з артыкулаў, якія прысвяціла гэтай кампаніі венесуэльская газета «Эль Універсал».

Аўтар гэтай і яшчэ адной публікацыі пра «Белзамежбудзе» Ёэф Палішук выказвае меркаванне, што дзейнасць БЗБ у лацінаамерыканскай краіне стала адной з прычын арышту беларускага бізнэсмэна Віктара Шаўцова, які ўзначальваў яе праўленне.

Каля чатырох гадоў таму Беларусь абяцала пабудаваць у Маракаі і Каракасе 17 500 кватэр, але гэтыя абяцанні не былі выкананыя, піша Палішук на старонках «Эль Універсал». Разам з тым, адзначае аўтар, аналагічныя праекты з расіянамі і іранцамі ішлі паспяхова.

Варта адзначыць, што ў Венесуэле беларусы будуюць не самі, а наймаюць венесуэльскіх падрадчыкаў, якімі кіруюць праз ваенных перакладчыкаў.

Венесуэльцы працуюць у цяжкіх умовах, сутыкаючыся з небяспечнай працай, затрымкай заробкаў і звальненнямі. Нібыта, 29 красавіка 2011 венесуэльскія рабочыя нават зладзілі страйк супраць несправядлівага стаўлення да іх з боку БЗБ.

Будаўніцтва суправаджалася дзейнасцю гэтак званай «арматурнай мафіі», якая займалася кантрабандай жалеза. Меў месца крадзеж будматэрыялаў, што, як мяркуюць у Венесуэле, рабілася не без ведама кіраўніцтва кампаніі.

Газета пацікавілася ў прадстаўніка БЗБ Андрэя Атрашкевіча, ці звязаны арышт Віктара Шаўцова з сітуацыяй у Венесуэле. Атрашкевіч з гэтым меркаваннем не згодны, ён мяркуе, што бізнэсмэна арыштавалі ў сувязі з яго дзейнасцю ў Іраку.

Венесуэльскі журналіст адправіўся ў Маракай, каб на месцы высветліць, як ідуць справы з беларускім будаўніцтвам. Аказалася, што 29 снежня мінулага года ў горадзе былі здадзеныя пад ключ 720 кватэр (усяго каля 4% ад праектных 17 500), але з таго дня і да 3 студзеня 2012 года нават у іх не было электрычнасці і каналізацыі! Працы на здадзеных аб'ектах працягваліся і пасля таго, як у іх засяліліся першыя жыхары.

На фатаграфіях, апублікаваных «Эль Універсал», паказаныя неспрыяльныя жыллёвыя ўмовы ў кватэрах Маракая, ужо здадзеных беларусамі.

**Naviny.by**



Венесуэльцам няясна: як можна лічыць дом здадзеным, калі там ёсць недаробкі?

**Віктар Шаўцоў**

быў знаёмы не толькі з прэзідэнтам Уга Чавесам, але і з нябожчыкамі Садамам Хусэйнам і Муамарам Кадафі. Сярод іншага, ён узначальваў Таварыства беларуска-іракскай дружбы, уваходзіў у беларуска-лівійскую камісію па эканамічным, гандлёвым і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. «Белзамежбуд» узначаліў у 2007. Гэтая кампанія «стала трымальнікам асноўных кантрактаў па пастаўках беларускай тэхнікі і абсталявання і заказчыкам і падрадчыкам па ўсіх будаўнічым праектах у Венесуэле — на мільярды даляраў», піша «Штодзённік».

Віктар Шаўцоў падазраецца ў асабліва буйным крадзяжы. Як паведамлялася раней, у дачыненні да топ-менеджараў ЗАТ «Белзамежбуд» у кастрычніку 2011 была заведзена крымінальная справа. Следствам правяралася інфармацыя аб дачыненні Шаўцова да здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў пры падрыхтоўцы і рэалізацыі эканамічных праектаў у Венесуэле.

«Падставай для завядзення крымінальнай справы паслужыла інфармацыя аб яго дачыненні да крадзяжу грашовых сродкаў, якія знаходзіліся на рахунках аднаго з банкаў.

Паводле папярэдняй ацэнкі следства, сума скрадзеных грашовых сродкаў перавышае 10 млн даляраў. У дачыненні да Шаўцова абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту, і цяпер ён знаходзіцца ў СІЗА КДБ», — распавядаў у эфіры канала «Беларусь-1» «намеснік начальніка прэс-службы КДБ Артур Стрэх.

На прэс-канферэнцыі ў Мінску 23 снежня 2011 Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў выпадку пакрыцця дзяржаве нанесенай шкоды Віктар Шаўцоў будзе вызвалены. «Шкоду нанёс дзяржаве — грошы на стол у двухразовым-трохразовым памеры, і пайшоў. Не заплаціць грошы — будзе сядзець у турме», — сказаў Лукашэнка.

Лукашэнка падкрэсліў, што гэта шараговае эканамічнае злачынства, звязанае з вывадам грошай і правапарушэннем у сувязі з будаўніцтвам аб'екта ў Венесуэле. «Гэта звычайная крымінальная справа, у нас такіх хапае. Нават ёсць крымінальныя справы больш сур'ёзныя», — адзначыў ён. Але дадаў: «Гэты спадар не ў першы раз трапляе ў поле зроку праваахоўных органаў».

Венесуэла — адзін з найважнейшых саюзнікаў Беларусі на сусветнай арэне, таму скандал з «Белзамежбудам» ляжыць не толькі ў эканамічнай, але і ў палітычнай плоскасці.

# Колькі каштуе абед у сталоўцы Нацбанка?

Колькі — у **звычайных сталовых**?

Напрыканцы студзеня ў прэсу трапіла меню ведамаснай сталоўкі Нацбанка. Высветлілася, што тут можна нядрэнна пад'есці па вельмі дэмакратычных коштах. Паўнавартасны абед, які складаецца з супу, рыбнай катлеты з гарнірам, салаты са свежай гародніны і чаю або соку з булачкай, каштуе тут каля 15 тысяч рублёў. Аднак паабедаць у гэтай сталоўцы могуць толькі супрацоўнікі банка.

Для «простых смяротных» мы прапануем невялікі агляд варыянтаў паабедаць у сталіцы.

### Кавярні і бістро

Гэтыя ўстановы прапануюць комплексныя абеды або стравы абедзеннага меню. У сярэднім паесці ў бістро на сёння каштуе 30—40 тысяч. Першыя стравы тут падаюць за 10—15 тыс., салаты каштуюць ад 3 тыс. (з чырвоных буракоў з часнаком, напрыклад) да 15 тыс. (асарці са свежай гародніны). На другое можна замовіць катлеты — свіныя, з ялавічыны і птушкі каштуюць каля 10 тыс. за 100 грам. Запечаная мяса каштуе ад 22—23 тыс. за 200—250 грамаў. На гарнір можна замовіць кашу — грэцкую ці рысавую — каля 2 тыс. рублёў за 100 г. Ці бульбяное пюрэ — каля 2,5 тыс. за 150 г. Сок ці морс каштуе каля 5 тыс. рублёў.

### Сталоўкі

Часам у сталоўках далёка не горшы асартымент і якасць страваў, чым у бістро. І розніца ў цэнах тлумачыцца хутчэй статусам і ўнутраным аздабленнем установы. Калі вы не гатовыя або не лічыце патрэбным плаціць за прыгажэйшыя шпалеры і даражэйшы абрус на стале, то вам у сталоўку. Тым больш што сёння не праблема патрапіць у большасць ведамасных сталовак. Нават у школьныя, якія частку абедаў прадаюць староннім наведнікам. У сярэднім, у мінскіх сталоўках можна паўнавартасна паабедаць за 15—20 тысяч.

### Кулінарыі

Яшчэ адзін варыянт — кулінарныя аддзелы ў вялікіх крамах. Тут можна набыць на вагу салаты, мясныя стравы і гарніры. Адзіны мінус — адсутнасць супоў. У астатнім можна скласці сабе абедзеннае меню не горшае, чым у сталоўцы, — і па цане, і па якасці. Як правіла, кулінарыі прапануюць салаты на выбар — ад самых танных (буракі, кіслая капуста) да дарагіх (ад 5 тысяч за 100 грам). Ежу могуць пагрэць на месцы — зручны варыянт для тых, хто працуе побач.

### Абеды на дом

Многія кафэ і бістро прапануюць паслугі дастаўкі абедаў на офіс. Такі абед каштуе ў сярэднім на 5—6 тысяч даражэй, чым комплексны на месцы. Стравы прывозяць у аднаразовым посудзе, што вырашае пытанне захоўвання персанальнага посуду на працы.

Свае паслугі па дастаўцы абедаў прапануюць і прыватныя прадпрымальнікі. Многія з іх прымаюць папярэднія замовы на канкрэтныя стравы. Такі абед можа складацца з порцыі супу (5—6 тысяч за 0,5 л) і другой стравы — напрыклад, катлета з бульбай і невялікай порцыяй салаты з капусты (12—13 тысяч).

**Сямён Печанко**



Многія жыхары сталіцы аддаюць перавагу «Макдональдсу».

PHOTO BYMEDIA.NET

## Сцісла

### У баранавіцкай бальніцы пацыенты мерзлі, пакуль не ўмяшалася прэса

У адной з палат неўралагічнага аддзялення гарадской бальніцы тэмпература паветра ўпала да 10 градусаў цяпла. Пра гэта журналістам незалежнай газеты Intex-press паведамілі пацыенты. Пасля публікацыі ў газеце і перадрукаў на незалежных сайтах на праблему звярнулі ўвагу. Спачатку ў той палаце пачысцілі вокны ад лёду, дадалі цяпла ў батарэях, а потым і ўвогуле перавялі хворых у іншую палату.

### Праваслаўныя Гомеля і Магілёва супраць рок-оперы

Гомельская епархія БПЦ звярнулася да гарадскіх і абласных уладаў з просьбай адмяніць паказ у Гомелі рок-оперы «Ісус Хрыстос — суперзорка». У епархіі адзначылі, што паказ оперы прыпадае на першую нядзелю Вялікага посту, а паколькі ў спектаклі скажаюцца біблейскія падзеі, ён можа зняважыць пачуцці праваслаўных вернікаў. Раней адмянілі паказ оперы ў Магілёва.

### Рабочыя БАТЭ правялі папераджальны страйк

13 лютага на барысаўскім заводзе часова спынілі працу зборшчыкі электраабсталявання. Паводле Міхаіла С., работнікі БАТЭ перапынілі працу на знак пратэсту супраць налічэння нізкіх заробкаў, якія паводле вынікаў працы ў студзені складаюць 1,3–1,5 мільёна рублёў.

**СП**

# «Рукі беларускіх уладаў будуць у крыві, калі ён памрэ»

Працяг са старонкі 1.

Жонка Алена ўвесь гэты час не мела спатканняў з мужам. Яна лічыць, што забараняюць, бо не хочуць афішаваць ягонае здароўе. Па словах адвоката Каваленкі, стан крытычны.

Старшыня Еўрапарламента Марцін Шульц асабіста заклікаў вызваліць Сяргея Каваленку. «Мяне страшыць ўсё горшая сітуацыя з правамі чалавека і палітычнымі свабодамі ў Беларусі. Рукі беларускіх уладаў будуць у крыві, калі ён памрэ».

«Жыццё Каваленкі цяпер пад пагрозай у сувязі з галадоўкай супраць яго несправядлівага зняволення. Я заклікаю беларускія ўлады вызваліць яго неадкладна і безумоўна, і забяспечыць яму неабходную медычную дапамогу», — зазначыў Шульц.

Таксама ён заклікаў вызваліць астатніх палітвязняў: Мікалая Статкевіча і Андрэя Саннікава, выбітнага праваабаронцу Алеся Бяляцкага, апазіцыйных актывістаў Змітра Бандарэнку, Мікалая Аўтуховіча, Дзмітрыя Дашкевіча.

«Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць лепшага. Еўрапарламент падтрымлівае грамадзянскую супольнасць і дэмакратычныя імкненні беларускага народу», — гаворыцца ў заяве.

**Зміцер Панкавец**

**Рэкордныя галадоўкі**

Палітычныя галадоўкі ў Беларусі здараліся і раней. Самую працяглую з іх трымаў у 2009 ваўкавыскі прадпрымальнік **Мікалай Аўтуховіч** — больш 90 дзён. Ён пратэставаў супраць свайго арышту. Яму рабілі глюкозавыя кропельніцы, што дазволіла пратрымацца так доўга. **Аляксандр Казулін** у 2006 годзе ў калоніі «Віцьба-3» трымаў галадоўку 53 дні. Ён дамогся, каб пытанне пра парушэнне правоў чалавека ў Беларусі было прынятае ў Радзе бяспекі ААН. 52 дні галадалі сябры партыі БНФ **Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык**, якіх арыштавалі ў 1996, пасля «Чарнобыльскага шляху». У выніку іх выпусцілі на свабоду. Былы сябра фракцыі «Рэспубліка» ў беларускім парламенце **Сяргей Скрабец** у 2004 галадаў 40 дзён.



Над домам Сяргея Каваленкі ў Віцебску лунае бел-чырвона-белы сцяг. Да яго прымацавана запіска: «Гані быкоў! Вярнецца воля! Слава героям! Слава Беларусі!»

# «У капцюрох ГПУ»: затрымлівалі 30 удзельнікаў Ліцвінскага клуба



Разбіты спецназам шклопакет выстаўлены на ўсеагульны агляд.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Спецназ уварваўся на пасяджэнне моладзевай суполкі, калі там **абмяркоўвалі класічную кнігу** Аляхновіча.

«Яны выбілі шыбу ў кухні, пабілі там усё, усе талеркі, там усё ляцела! Гэта добра, што ў той момант не было дзяцей побач, бо на пасяджэнне прыйшлі і людзі з дзецьмі», — расказала адна з удзельніц сустрэчы Святлана. Спецназ загадаў усім стаць і ўзняць рукі ўгору, было забаронена карыстацца мабільнымі тэлефонамі і гаварыць.

Падставай для налёту, як сказалі спецназаўцы, быў званок, што ў памяшканні вырабляюць наркотыкі. Сярод затрыманых быў Зміцер Хведарук, былы лідар незарэгістраванага «Маладога Фронту». У Маскоўскі РУУС затрыманых, каля 30 чалавек, даставілі ў аўтазаку.

Святлана адзначыла, што спецназаўцы паводзіліся жорстка: «Сярод нас быў стары чалавек, яму стала блага яшчэ ў кватэры. Яны выклікалі «хуткую» толькі ў РУУСе, праз сорак хвілін!» У РУУСе ў затрыманых перапісалі асабістыя звесткі: імя, дату нараджэння, месца працы. Каля 22-й гадзіны ўдзельнікаў Ліцвінскага клуба групамі па некалькі чалавек пачалі выпускаць.

Як расказаў пастар евангельскай царквы «Ян Прадвеснік» Антоній Бокун, гаспадар дома, на які быў здзейснены налёт, ні падчас уварвання, ні ў РУУСе міліцыянты яму не здолелі ўцямна патлумачыць прычыну сваіх дзеянняў. «Яны амаль усе былі ў цывільным, а калі мы спыталіся, хто яны, адзін нават сказаў: «Група ліц». Іншы, таксама не ў форме, які прадставіўся як маёр Бегуноў з Маскоўскага РУУС, казаў пра нейкія «наркотыкі».

Спадар Бокун збіраецца падаваць скаргу на дзеянні супрацоўнікаў органаў, якія маюць быць праваахоўнымі.

**Сяргей Мікулевіч**

**Ліцвінскі клуб**

культурніцкая суполка патрыятычнай моладзі, якая існуе пры евангельскай царкве «Ян Прадвеснік» у Мінску больш за пяць гадоў. Збіраюцца яе ўдзельнікі кожную сераду. Яны ладзяць дыскусіі, глядзяць фільмы. Прыкладна год таму праходзіла інфармацыя, што гэбісты выпытвалі пра Ліцвінскі клуб у некаторых студэнтаў, затрыманых на Плошчы.

## «Яны могуць «кінуць» з памілаваннем»

Рэдакцыя атрымала **ліст ад палітзвязня Аляксандра Францкевіча**.

«Пішу ад рукі, хаця і дрэнны почырк. Не дапускаюць да лічбавай тэхнікі, — жартуе вязень. — Шкадую, што ўжо паўтара года не працаваў з камп'ютарам. Як і ў любога айцішніка, была жудасная прывязанасць, проста залежнасць».

Аляксандр ведае пра тое, што адбываецца на волі. У тым ліку і аб прашэнні Андрэя Саннікава. «Тут чуткі ходзяць, што вакол яго стварылі вакуум... — піша палітвязень, але не асуджае палітыка. — Мне просьба напісаць прашэнне паступала толькі раз — начальнік калоніі выклікаў мяне, Мірзаянава, Вінаградава і Лобава проста з праверкі. Але яшчэ тады я разумеў, што яны спакойна могуць «кінуць» з гэтым памілаваннем. Таму не шкадую. У астатнім час ідзе мерна і без назойлівых прапаноў».

Раней паведамлялася, што Аляксандр займаўся выпускам сценгазеты ў калоніі. «Шчыра кажучы, не самае лепшае было рашэнне за яе тады брацца, тры месяцы маляваў». Палітвязень адзначыў, што шмат чытае (філасофія, навуковая фантастыка) і гуляе ў шахматы.

«Вы пісалі пра генерала Азаронка [былы камандуючы ВПС і войскамі ППА Беларусі, асуджаны за атрыманне хабару — «НН»]. Дык ён сядзіць у ПК-22. Хто ведае, можа, заедзе і Полудзень [былы намеснік міністра ўнутраных спраў, абвінавачаны ва злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі — «НН»]».

**«Хто ведае, можа, заедзе і Полудзень»**

Аляксандр Францкевіч асуджаны па справе мінскіх анархістаў на 3 гады калоніі. Разам з ім асудзілі Мікалая Дзядка і Ігара Аліневіча. Іх абвінавацілі ў арганізацыі шэрагу акцый у 2009—2010: антымілітарысцкага шэсця пад Мінабароны, нападзе на казіно «Шангры Ла», падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка», нападзе на пасольства Расіі ў Мінску, нападзе на ізалятар на Акрэсціна. Вінаватымі хлопцы сябе не прызналі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Аляксандра Францкевіча пазбавілі спаткання** з роднымі на падставе дысцыплінарнага спагнання. Маці вязня патлумачылі ў івацэвіцкай калоніі, што Аляксандр без дазволу выйшаў за тэрыторыю свайго атрада. Кароткатэрміновае спатканне мела адбыцца на мінулым тыдні. У калоніі таксама адзначылі, што асуджаны напісаў заяву на доўгатэрміновае спатканне з маці ў маі.

**In memoriam**

## Пятро Шашкель

Сябра КХП-БНФ памёр 9 лютага а 18 гадзіне, яму было 67 гадоў. «Гэты чалавек усё жыццё быў адданы роднаму краю, даглядаў за Курапатамі, даносіў людзям каштоўную інфармацыю праз кнігі ды брашуры, імкнуўся зрабіць нашую краіну крышку больш беларускай, што ў яго і атрымлівалася...» — напісаў пра яго кніжны распаўсюднік Алесь Мазанік.



Сям'я Пятра Шашкеля была рэпрэсаваная ў 1946, калі хлопцу было ўсяго 2 гады, а ягонаму брату ўвогуле 2 месяцы. «Мы былі асуджаныя да 5 гадоў ссылкі. Кінутыя ў Баранавіцкую турму КДБ «Крывое кола», а потым была перасыльная турма ў Оршы. І этапам у Сібір. Разам з маці. Бацька быў раней забраны, і мы нават не ведаем, дзе пахаваны. Бог злітаваўся над намі — удалося выжыць. Мы рэабілітаваныя толькі ў 1996, праз 50 гадоў!» — успамінаў сп. Шашкель.

Ад 1988 ён не прапускаў ніводных Дзядоў, без яго цяжка ўявіць традыцыйнае шэсце.

**ЗП**

# Бел-чырвона-белыя налепкі на машынах выклікаюць шал

**У Брэсце, імаверна, сексотаў прымушалі фатаграфаваць машыны са сцяжкамі.**




Аўтааматараў, якія размяшчаюць на кузаве свайго аўтамабіля налепкі з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам, выклікаюць у дзяржаўтаінспекцыю.

«Мяне таксама выклікалі. Я сустрэў знаёмага, які ездзіць таксама з налепкай «Пагоні» і бел-чырвона-белым сцягам. Яму пагражалі артыкулам аб навешванні налепак на кузаў аўтамабіля», — расказаў радыё «Свабода» кіроўца Віктар Клімус.

«Але на мяне пратакол не склалі, бо ў мяне «Пагоня» была на магніце і я перад прыездам у ДАІ яе зняў. Здымаў я яе на час нагляду, а потым павесіў на месца», — расказаў берасцеец.

«Лічу, што трэба надаць розгалас гэтай справе. Тут ёсць нейкая замова, бо я бачыў, што ў іх у спісе каля 30 чалавек».

Берасцеец Анатоль Ярмак пацвердзіў інфармацыю, якую агучыў Віктар Клімус. Не знайшоўшы налепак на ягоным аўто, даішнік паказаў Анатолю фотаздымкі іншых аўтамабіляў з нацыянальнай сімволікай.

У рэальнасці на многіх аўтамабілях, ва ўсім свеце, ёсць розныя сур'ёзныя або жартаўлівыя налепкі, і раней нікога гэта не турбавала, бо нікому не шкодзіць. А бел-чырвона-белыя налепкі і «Пагоня» — гэта перадусім напамін пра нашу нацыянальную культуру, пра тое, хто мы і ў што мы верым.

Нацыянальныя налепкі шмат дзе прадаюцца. Шмат хто вырабляе іх і сам — існуюць крамкі, што раздрукоўваюць кліентам любую наклейку з прынесенай імі карцінкі. Такім жа спосабам вырабляюць і магніцікі.

**Мікола Бугай**

# Залатая чыгунка: 265 тысяч рублёў за 1 км дарогі

**Рэкорды цэнаўтварэння: дабрацца з Брэста да Тарэспаля можна за 1 859 000 рублёў.**

Не сакрэт, што тарыфы на ўнутрырэспубліканскія і міжнародныя перавозкі моцна розняцца. Але, аказваецца, часам розніца можа дасягаць 60 разоў.

Шлях ад Брэста да Тарэспаля на цягніку звычайна каштуе 30 тысяч рублёў. Але гэтая ж дарога можа абысціся і ў 1 859 000 рублёў! Столькі давядзецца заплаціць, калі ўзяць білет у СВ на цягніку 017Б «Масква—Ніца». Дарога займае 18 хвілін. Выходзіць, што кожны кіламетр каштуе 265 тысяч рублёў.

Гэты цягнік можна лічыць самым дарагім з тых, што праходзіць па тэрыторыі Беларусі. Наша чыгунка да яго дачынення не мае, ён сфармаваны у Расіі.

**Ягор Марціновіч**






**Фотафакт**

**Каляндар апакаліпсісу ў стылі пін-ап**

«Кожны месяц — розны варыянт Канца Свету. Спадзяюся, усім спадабаецца», — жартуе пра сваю працу мастак Андрэй Тарусаў.

# Кот перапыніў матч англійскай Прэм'ер-лігі

На 12-й хвіліне сустрэчы 24-га тура англійскай Прэм'ер-лігі паміж «Ліверпулем» і «Тотэнхэмам» на поле стадыёна «Энфілд» выбег кот.

Прабегшы па полі, ён спыніўся ў штрафной плошчы «Тотэнхэма», пасля чаго ўцёк за бакавую лінію.

Падобны інцыдэнт адбыўся пару тыдняў таму на стадыёне «Камп Ноў», дзе падчас матча 22-га тура «Барселона» — «Рэал» Сасьедад на поле выбег чорны кот.

Няўдачу ён прынёс «Рэалу» — каманда саступіла з лікам 1:2.

**АГ**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Рукі дзеда

На мінулым тыдні разгарнуліся спрэчкі вакол «дзеда Талаша» — фільма з такой назвай, асобы і вобраза Коласаўскай «Дрыгвы».

Фільма я, на жаль, не глядзеў. А вось спрэчкі...

Прыгадаўся знаёмы калісьці вясковы ксёндз. Кожны раз, калі сустракаў яго на ўскрайку вёскі, на раздарожжы, ён хітравата мружыў вочкі і пытаўся: «А ці не ведае пан, дзе тут шлях да Варшавы? ... А да Пецярбурга?»

«Пан» ужо ведаў, што ставіцца да пытанняў старога ксяндза трэба лагодна, і насамрэч паказваць адпаведны кірунак, каб пазбегнуць ксяндзовага кійка.

Такі вось урок гісторыі з геаграфіяй.

Наогул гэта быў дзіўнаваты стары. І ўлетку, і ўзімку хадзіў у дзіравай ватоўцы і чырвонаармейскай вушанцы з адбіткам пяціканцовай зоркі на лбе... Часцяком яго знаходзілі спячым на адселеным хутары, на яшчэ цеплаватай печы, якую сам распальваў рэшткамі пасечанага саду і разбуранага гумна...

Праз колькі гадоў, калі ксёндз ужо адышоў у лепшы свет, я даведаўся, што ён добра прамерз на гулагаўскім лесапавале. І да сканчэння жыцця не здолеў сагрэцца. Але пра тое, дзе шлях да Сібіры, не пытаўся ніколі...

Ці не падобныя мы ў сваім стаўленні да гісторыі на ўзгаданага старога ксяндза? Носім да апошніх нітак сталінскую ватоўку, чапляем на сябе вушанку з адбіткам чырвонай зоркі і ніяк не можам сагрэцца ля ўласнага вогнішча. А калі падаецца, што нехта збіўся з шляху, пагрозліва ўздымаем кіёк...

Са спрэчак вакол фільма пра «дзеда Талаша» вынікае, што яго стваральнікі ўзнялі ў бок Польшчы пагрозлівы «бальшавіцкі» кіёк. У адказ — «дэмакратычны» польскі кіёк: артыкул у газеце Rzeczpospolita пра непараўнальна

## Пагрозліва ўздымаем кіёк »

лепшае за савецкае жыццё беларусаў «за польскім часам», нават пратэст польскага МЗС...

Але гістарычная праўда не можа быць ні «бальшавіцкай», ні «дэмакратычнай». Інакш яна губляе самае істотнае сваё вымярэнне — чалавечае.

Бо сапраўдная гісторыя краін і народаў складаецца з чалавечых лёсаў.

І гэта адзінае вымярэнне, якое дапамагае суцішыць боль ад гістарычных стасункаў. І ладзіць стасункі без болю...

А тут Лукашэнка раптам — плясь! У Варшаве быццам зноўку «спяць і бачаць», як аднавіць «усходнія крэсы»...

Пра тое, што ў Маскве «не спяць», — адпаведны маўчок...

А наўздагон — фільм пра «дзеда Талаша», пра ягоную барацьбу супраць «белапольскіх акупантаў».

Што «акупанты» з'явіліся праз бальшавікоў, грамадзянскую вайну і савецкую ўладу — адпаведны маўчок...

Чаму «Катынь» Анджэя Вайды не выклікала пратэсту ні афіцыйнага расійскага боку, ні простых расійцаў, акрамя «вечна жывых»? Ці не таму, што ўпершыню, мусіць, расійцы ўбачылі чалавечы твар не толькі жахлівай польскай, але і ўласнай трагедыі, твар праўды, без якой немагчымае пачуццё гістарычнай адказнасці і віны?!

Спробы адшукаць гістарычную праўду ў спарахнелым ідэалагічным куфры, са спрытнасцю штукара выцягваючы адтуль толькі тое, што адпавядае палітычнай патрэбе, небяспечныя для стасункаў паміж народамі і людзьмі.

Але перш-наперш небяспечныя для нас саміх.

Адшукаць уласнае месца ў гісторыі і сучасным свеце немагчыма, блукаючы абапал дрыгвы і спрабуючы намацаць цвёрдую зямлю з дапамогай кіёчка.

Але ж дрыгва — яна і ёсць дрыгва. Нездарма, мусіць, Якуб Колас так назваў сваю аповесць.

...А фільм пра «дзеда Талаша» абавязкова пагляджу пры першай нагодзе. Цікава ўсё ж, ці здолеў Генадзь Гарбук стварыць вобраз знакамітага палешука без двукоссяў.

Яшчэ цікавей, ці супадзе гэты вобраз з маім уласным уяўленнем пра дзеда. Не з аповесці — з прыватнай сямейнай гісторыі, з жыцця. Дакладней, з яго пачатку, з 1943 года.

У тым годзе мяне, двухгадовага, маці прывезла з Казані ў Маскву і, падаўшыся бліжэй да роднай Беларусі, пакінула на сваю сястру, цётку Надзю. Аднойчы, гуляючы са мной ля гатэля «Якорь», яна, стаміўшыся, пасадзіла мяне на высокі парапет. Але, відаць, жвавенькі быў хлопчык. У нейкі момант з'ехаў з парапета і быў падхоплены з лёту праходзячым міма дзядком. «Куды глядзіш, старая варона?! Ледзь дзіця не згубіла...» А «старая варона», з яе слоў, аж разявіла рот, гледзячы на дзеда і ордэн Чырвонага Сцяга, які паблісквAў з-пад расхінутага кажуха...

Ордэн ордэнам, у Талаша з ім свая прыватная гісторыя. Але ж і сёння мне зусім не цяжка ўявіць сабе, нават адчуць рукі дзеда.

Ураtаваў ад калецтва, а мо яшчэ ад чаго горшага...

*kamerton_41@mail.ru*

# Хто самы ўплывовы ў беларускім бізнэсе?

**На чале «топ-200» мільянеры Уладзімір Пефціеў, Юрый Чыж і Аляксандр Машэнскі.**

Інтэрнэт-выданне «Штодзённік» склала рэйтынг самых уплывовых беларускіх бізнэсоўцаў. Складальнікі не выкарыстоўваюць у назве словы «багаты», бо звестак пра памер актываў у адкрытым доступе няма. Кожная ацэнка шмат у чым залежыць ад піяру ці рэальных уражанняў.

Крытэрыяў выбару месца два. «Паспяховасць, якая заключаецца ў наяўнасці пэўнага аб'ёму капіталу, здольнасці захоўваць яго і павялічваць ва ўмовах выклікаў, якія ставіць рэчаіснасць. Другі — гэта ўзровень уплывовасці таго ці іншага бізнэсмэна, які дазволіў паспяхова вырашыць першую задачу», — адзначаюць складальнікі рэйтынгу.



PHOTO.BYMEDIA.NET

### 1 (Пазіцыя ў папярэднім рэйтынгу — 1). Уладзімір Пефціеў (1957 г.н.)

«Кашалёк Лукашэнкі», як яго называюць на Захадзе, стаў першым беларускім бізнэсоўцам, супраць якога былі ўведзеныя эканамічныя і візавыя санкцыі Еўрасаюза. За яго «змагаюцца» літоўскія адвакацкія канторы, аднак без асаблівага плёну.

Пефціева ведаюць яшчэ з пачатку 1990-х, калі ён узначаліў «Белтэхэкспарт» — кампанію, якая займалася продажам зброі. Апроч таго, у яго імперыю ўваходзяць вада «Аквадзіў», правайдар «Дзелавая сетка» і латарэя «Спорт-Пары». Кажуць, што бізнэсоўца кіруе імі з Мальты, дзе жыве яго сям'я. Чуткі пра эміграцыю Пефціева, чый капітал ацэньваецца ў мільярд даляраў, у канцы 2011 публічна абвергнуў Лукашэнка.

### 2 (2). Юрый Чыж (1963)

Бізнэсоўца з самымі разнапланавымі інтарэсамі пакінуў за сабой другую прыступку. Апроч «Трайпла», Чыж валодае гіпермаркетамі «Прастор», футбольным клубам «Дынама», жыллёвым комплексам «Ля Траецкага,» рэстаранамі «Ракаўскі бровар», «Салодкі фальварак». І гэта не ўсё. Ва ўласнасці выхадца з Бярозаўшчыны — заводы будматэрыялаў, нафтахімія, фармацэўтычныя прадпрыемствы.

**Цікавыя асобы ў рэйтынгу**

34. Анатоль Капскі (БАТЭ)

57. Сяргей Левін (парфумерная фабрыка «Сонца»)

69. Юрый Зісер (партал Tut.by)

138. Сяргей Атрошчанка (бялізна «Серж», газета «Обозреватель»)



**Непальская экзотыка**

Генеральны консул Каралеўства Непал у Мінску Упендра Махата знаходзіцца на 16-м месцы рэйтынгу. Ён мае долю ў многіх кампаніях, ад «Амкадора» да холдынга BNK Holding, які кіруе многімі мінскімі бізнэс-цэнтрамі — напрыклад, Silver Town, Rubin Plaza.

### 3 (9). Аляксандр Машэнскі (1970)



Гаспадар «Санта Брэмара» імкліва ўварваўся ў тройку лідараў. Свой бізнэс ён атрымаў у спадчыну ад бацькі. Адметнасць Аляксандра Машэнскага ў тым, што ён не спрабуе ўваходзіць на сталічны рынак, абмяжоўваючы сябе Брэстчынай. Затое там ягоныя крамы прадстаўленыя ў Пінску, Камянцы і Століне. На рэспубліканскі ўзровень ён можа выйсці, калі ўзначаліць «Аб'яднаную малочную кампанію». У цэнтры холдынга будзе «Савушкін прадукт» Машэнскага.

### 4 (6). Віталь Арбузаў (1966)



Пад кіраўніцтвам Арбузава знаходзіцца холдынг Fenox Automative Gmbh, у які ўваходзяць 12 заводаў па выпуску аўтакампанентаў, раскіданыя па Беларусі, Расіі і Украіне. Ёсць актывы і ў далёкім замежжы — у Вялікабрытаніі, Даніі і Сінгапуры. А вось для беларускіх спажыўцоў бліжэй сетка ягоных крамаў «Прэстан».

### 5 (37). Аляксандр Шакуцін (1959)



Дэпутат савета рэспублікі, сябра прэзідыума «Белай Русі», член рады старэйшын БРСМ. Найбольшы прыбытак яму дае холдынг па выпуску дарожнай і камунальнай тэхнікі «Амкадор». Апроч таго, Шакуцін валодае «Спамаш групай», прадпрыемствы якой займаюцца распаўсюдам прадукцыі «Амкадора» і выпускам запчастак да яе. Не цураецца сенатар і мастацтва, спансаруючы прадзюсарскі цэнтр «Спамаш». Асноўныя ягоныя галасы — спевакі Алена Ланская і Іван Буслай.

### 6 (46). Віктар Пятровіч

Гэта адзін з самых закрытых бізнэсоцаў Беларусі — няма ніводнага яго публічнага фотаздымка. Суўладальнік цыгарэтнага прадпрыемства «Тытунь-Інвест», гіпермаркетаў «Карона» і верталётнага клуба «Робінсан». Мяркуецца, што Пятровіч па сваёй уплывовасці абышоў больш вядомага кампаньёна **Паўла Тапузідзіса**, які за год апусціўся з 7-га на 24-е месца.

### 7 (23). Яўген Шыгалаў (1953)

Кіраўнік рынку ў Ждановічах нарэшце вярнуўся ў вялікі бізнэс. Яўген Шыгалаў заплаціў велізарны «выкуп», каб выбрацца з турмы. Ён валодае некалькімі прадпрыемствамі, звязанымі з рынкам, напрыклад, сельскагаспадарчай «Ждановічы-Агра», а таксама «Еўрабанкам» і дылерам аўтакампаніі Huyndai кампаніяй «Хёндэ Аўтаград».

### 8 (10). Алег Хусаенаў (1964)



### 9 (33). Сяргей Савіцкі (1966)



Два кампаньёны кіруюць самым уплывовым гульцом на аўтарынку — дылер «Фальксвагенаў» «Атлант-М» — і першым беларускім холдынгам прамых інвестыцый «Зубр Капітал». Фонд SMH Holding Limited, у якім круцяцца іх грошы, валодае яшчэ Мінскім транзітным банкам і «Альтэрнатыўнай лічбавай сеткай» (найбуйнейшы прыватны правайдар «Атлант-Тэлекам»). У 2011 актыўна заняліся рынкам інтэрнэт-сувязі.

### 10 (5). Аркадзь Добкін (1966)

Адзін з стваральнікаў Парка высокіх тэхналогій, твар беларускага праграмавання на Захадзе, апусціўся ў рэйтынгу, нягледзячы на поспехі ягонай EPAM Systems. Кампанія размяшчае свае акцыі на Нью-Ёркскай фондавай біржы і спрабуе прыцягнуць як мінімум $100 мільёнаў. Аркадзь Добкін валодае 14% акцый EPAM Systems.

### 11 (12). Мікалай Мартынаў (1957)

Яшчэ адзін «рэгіянал», працуе ў Віцебску. Ягоны бізнэс з абутковай фабрыкі «Марка» разросся да гандлёвай сеткі «Марка-сэрвіс», вытворчасці галантарэі «Вітма», бровара і нават гандлёва-забаўляльнага цэнтра «Марка-Сіці». Дарэчы, абутковая фабрыка спансаруе аднайменную валейбольную каманду. Мартынаў набліжаны да ўлады — усё ж дэпутат савета рэспублікі і сябра «Белай Русі». Гэта дапамагае яму лабіраваць інтарэсы прадпрыемства. На базе «Марка» будзе створаны абутковы холдынг, у які ўвойдуць Лідская абутковая фабрыка, а таксама прадпрыемствы са Смілавічаў і Віцебска.

**Трапілі ў няміласць**

Вылецець з эліты беларускага бізнэсу нашмат прасцей, чым у яе патрапіць. Доказ гэтаму — гісторыя 77-гадовага **Ларана Арыніча** (18-я пазіцыя ў папярэднім рэйтынгу). Яшчэ пазалетась ён быў генеральным дырэктарам паспяховага холдынга «Пінскдрэў». У канцы 2010 на прадпрыемстве адбыўся выбух, у выніку якога загінула 14 чалавек. У студзені 2011 Арыніч быў адхілены ад сваёй пасады, а «Пінскдрэў» быў фактычна нацыяналізаваны. Галоўным фігурантам у крымінальнай справе па выбуху мусіў быць кіраўнік прадпрыемства, таму Арыніч не знайшоў іншага выйсця, чым з'ехаць з краіны. Знаходзіцца ў вышуку.

А вось **Віктар Шаўцоў,** які быў птушкай яшчэ больш высокага палёту (8-е месца ў папярэднім рэйтынгу), збегчы не паспеў. Праваслаўны мецэнат, кіраўнік «Белзамежбуда», «Трастбанка», музея ў Дудутках у кастрычніку быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ па падазрэнні ў крадзяжы.



**Алма Яунцэмене (№29) (крамы «Суседзі») — першая бізнэс-вумэн Беларусі.**

### 12 (3). Анатоль Тарнаўскі (1960)

Кіраўнік кампаніі «Юнівест». Год таму ён уваходзіў у тройку найлепшых. Бізнэсоўца спансаруе Прэзідэнцкі спартыўны клуб, таму набліжаны да Дзмітрыя Лукашэнкі. Група кампаній Тарнаўскага займаецца нафтаперапрацоўкай, а таксама будаўніцтвам. Сярод значных аб'ектаў — жыллёвыя комплексы «Каскад» (каля станцыі метро «Маладзёжная») і элітны «Нотынгем» з гольф-клубам за МКАД.

**Ягор Марціновіч**

# Міліцыянта, што не ўзяў адбіткі пальцаў у Дзмітрыя Канавалава, асудзілі на тры гады

**Прысуд уступіў у сілу 27 студзеня. Руслан Сініцын раней займаўся «тэлефоннымі тэрарыстамі».**

У Віцебскім абласным судзе паведамілі, што супрацоўнік УУС аблвыканкама Руслан Сініцын прызнаны вінаватым у службовай халатнасці. Ён асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення.

Сініцын таксама пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з праходжаннем службы ў органах унутраных спраў, тэрмінам на 5 гадоў і права займацца экспертна-крыміналістычнай дзейнасцю тэрмінам на 5 гадоў.

Нагадаем, крымінальная справа ў адносінах да Сініцына была заведзена па арт. 428 КК («Службовая халатнасць»). Міліцыянт не ўзяў у 2009 адбіткі пальцаў у прызыўніка Дзмітрыя Канавалава, якога летась прызналі вінаватым у здзяйсненні выбухаў у Мінску і Віцебску. Эксперт не толькі не правёў дактыласкапію, але і выдаў маладому чалавеку даведку аб тым, што той прайшоў такую працэдуру раней. І такім чынам прызыўнік не быў правераны на датычнасць да выбуху ў Мінску 4 ліпеня 2008.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, менавіта адбіткі пальцаў Дзмітрыя Канавалава былі выяўлены на выбуховым прыстасаванні, якое не спрацавала ў 2008-м.

Згодна з арт. 428 КК Руслану Сініцыну пагражала пакаранне ў выглядзе абмежавання альбо пазбаўлення волі на тэрмін да пяці гадоў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады.

Суд над міліцыянтам праводзілі ў закрытым рэжыме, спасылаўшыся на дзяржаўныя сакрэты, якія нібыта ўтрымліваюцца ў матэрыялах справы.

Руслан Сініцын — выпускнік Мінскага вышэйшага авіяцыйнага каледжа. Да прыходу ў міліцыю працаваў у грамадзянскай авіяцыі. Працаваў экспертам фанаскапічнай лабараторыі экспертна-крыміналістычнага цэнтра УУС аблвыканкама. Займаўся выліччэннем «тэлефонных тэрарыстаў». Затым праводзіў дактыласкапію.

**Сяргей Макарэвіч**



**У свой час Руслан Сініцын (на фота — злева) займаўся «тэлефоннымі тэрарыстамі».**

**Папраўчыя калоніі-пасяленні**

У іх адбываюць пакаранне асуджаныя за злачынствы, здзейсненыя па неасцярожнасці, і асуджаныя менавіта да калоніі-пасялення. Сюды пераводзяць з папраўчых калоній тых, хто ўпершыню пазбаўлены волі і цвёрда стаў на шлях выпраўлення. У такіх калоніях больш мяккія ўмовы ўтрымання, а таксама меншы комплекс абмежаванняў.

# Пацярпелым ад выбуху пад Лагойскам заплацяць па пару мільёнаў

**Улады лічаць, што новыя кватэры для гэтых людзей — занадта дарага.**



8 лютага ў вёсцы Маліна́ўка Лагойскага раёна адбыўся выбух у будынку інтэрната вайсковай часці. У трохпавярховым панэльным будынку былі пашкоджаныя сем кватэр. Абваліліся пліты перакрыцця 2-га пад'езда, разбураныя перагародкі.

З-пад завалаў работнікі МНС выратавалі чатырох чалавек, адзін загінуў. Параненых адразу даставілі ў Лагойскую бальніцу, двух з іх затым перавезлі ў Мінск. У аднаго мужчыны, які пацярпеў найбольш, пры выбуху адарвала ступак. Жанчыне з апёкамі твару аказалі дапамогу і адпусцілі на амбулаторнае лячэнне. Двое мужчын застаюцца ў бальніцы. Без шпіталізацыі медыцынская дапамога аказвалася яшчэ дзесяці асобам на месцы выбуху.

Найбольш верагоднай прычынай здарэння назвалі выбух бытавога газу праз парушэнне эксплуатацыі сістэмы газазабеспячэння. Пасля стала вядома, што жыхары інтэрната на працягу трох дзён да трагедыі адчувалі пах газу. І звярталіся нават у адпаведныя службы. Але выніку гэта не прынесла.

Аляксандр Лукашэнка лічыць выбух у Лагойскім раёне «вынікам галавацяпства». «Газ — гэта сур'ёзная рэч. Зачынена там была кватэра, не зачынена, быў пах газу, не было паху газу, ёсць сігнал — трэба было рэагаваць як належыць. Адважуся вас запэўніць: тыя, хто вінаваты, адкажуць на ўсю катушку. Ніхто не прыкрыецца нейкімі начальнікамі ці яшчэ кімсьці».

Крымінальная справа заведзена за парушэнне правіл пажарнай бяспекі.

Жыхароў інтэрната, у якім адбыўся выбух, рассялілі ў санаторый «Рудня» (вёска Янушковічы Лагойскага раёна). Старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура паведаміў, што разглядалася магчымасць пакупкі для гэтых сем'яў новых кватэр. Але, па словах чыноўніка, гэта надта дарага. Таму вырашылі чакаць заключэння экспертаў. Калі яны пацвердзяць, што ў інтэрнаце можна пражываць, то яго ўзновяць. Батура адзначыў, што два пад'езды з трох знаходзяцца ў добрым стане.

Ахвярам выбуху пачалі выплачваць матэрыяльную дапамогу. Сем'ям, якія пражывалі ў разбураным інтэрнаце, выплацяць па 2 мільёны рублёў, а тым, хто быў шпіталізаваны з траўмамі і родным загінуўшага — па 4 мільёны. У Мінаблвыканкаме разглядаюць магчымасць дадатковай падтрымкі, у тым ліку кампенсацыі за страчаную маёмасць.

**Кастусь Матушыч**

**Нумар дабрачыннага рахунка:**

3132061100024, ЦБП №611 філіяла №500, Мінскае ўпраўленне ААТ «АСБ Беларусбанк», 223141, г. Лагойск, вул. Пралетарская, 1. УНП 100603596, МФА 153001601.

# Што рабіць, каб пазбегнуць надзвычайных сітуацый

МНС папярэджвае, што нельга карыстацца пашкоджанымі разеткамі, выкарыстоўваць драты і кабелі з пашкоджанай ізаляцыяй.

Забаронена выкарыстоўваць электранагравальныя прыборы (кіпяцільнікі, чайнікі, электрычныя пліты) не завадскога вырабу.

Нельга пакідаць без нагляду печку, у якой паліце. Трэба старацца не перапальваць у ёй — паліць не больш за паўтары гадзіны. Дровы, мэбля, іншыя хатнія рэчы павінны знаходзіцца не бліжэй за паўметра ад печкі.

**Рэкамендацыі па бяспечнай эксплуатацыі бытавых катлоў**

Значная колькасць надзвычайных сітуацый, па звестках МНС, адбываецца пры эксплуатацыі бытавых катлоў у катэджах, жылых дамах, невялікіх сельскіх крамах. Асноўнай прычынай іх выбухаў з'яўляецца перавышэнне ціску праз замярзанне сістэмы ацяплення і спыненне цыркуляцыі вады ў ацяпляльным контуры.

Рэкамендуецца ў зімовы час правесці агляд комінаў для прадухілення іх абмярзання і закаркоўвання. Пры выяўленні няспраўнасці комінаў і вентыляцыйных каналаў карыстанне імі забаронена.

Неабходна пераканацца, што органы і прыстасаванні для замыкання адчынены.

Да пачатку распальвання катла трэба адчыніць лінію падпіткі сістэмы ацяплення і кантрольную лінію запаўнення пашыральнага бака. Калі вада выцякае з кантрольнай лініі, значыцца сістэма не замерзла. Пры гэтам трэба пераканацца, што ціск па манометры на катле не павышаецца.

З кантрольнай лініі не пайшла вада, а ціск павышаецца — сістэма замерзла. І кацёл распальваць забараняецца. Трэба вызначыць месца замярзання (як правіла, гэта раён злучэння пашыральнага бака з сістэмай ацяплення), адагрэць яго і толькі тады, як пацячэ вада, можна паступова распальваць. Калі і ў гэтым выпадку ціск дасягае максімальнай рысы, значыцца сістэма яшчэ не адагрэтая.

**СМ**




**Летась пры выбуху паравога катла ў адной з мінскіх лазняў загінулі два чалавекі.**

## Сцісла

**Мінчанін «замініраваў» ГУМ**

Крымінальную справу паводле ч. 1 арт. 340 КК завялі на 43-гадовага непрацуючага мінчука. 11 лютага ў 16.55 да супрацоўніка аддзела дэпартамента аховы Цэнтральнага раёна звярнулася прадавец секцыі ААТ ГУМ і паведаміла, што некалькімі хвілінамі раней на прылаўку невядомы пакінуў пакет, сказаўшы, што ў ім знаходзіцца бомба. Падазраванага па прыкметах затрымалі праз чатыры гадзіны на вуліцы Няміга.

**Выратавалі студэнта, які замярзаў у гомельскім парку**

9 лютага ўдзень у бальніцу хуткай дапамогі патэлефанаваў малады чалавек, які заблукаў у лясным масіве за Сожам і замярзаў. Медыкі перадалі гэтую інфармацыю ў МНС.

Разам з супрацоўнікамі МНС на пошукі выехалі міліцыянты і медыкі. Праз гадзіну яны знайшлі хлопца, які моцна замерз і не мог самастойна перамяшчацца. Пацярпелым аказаўся студэнт І курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту, 1993 г.н.

**СП**

# Брутальная рэканструкцыя



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мінчукоў шакуе выгляд **Купалаўскага тэатра**.

Разбураная задняя частка будынка. Праектоўшчыкі кажуць, што гэта — прыбудова 1950-х і гістарычнай каштоўнасці не мае. Таварыствы аховы помнікаў лічыць, што аснова тэатра, збудаваная ў XIX ст., таксама закранутая. Яшчэ адна прэтэнзія — рэканструкцыя такога значнага для культуры аб'екта не мусіць рабіцца экскаватарамі.

**ЮУ**

## Грошы і наркотыкі былі яе праклёнам

Спявачка **Уітні Х'юстан** памерла ў 48 гадоў.

Сусветна вядомая амерыканская спявачка і актрыса Уітні Х'юстан памерла ў ноч з 11 на 12 лютага, напярэдадні цырымоніі «Грэмі». Яе смерць стала шокам для мільёнаў прыхільнікаў.

Уітні абрала спевы невыпадкова. Яна нарадзілася ў музычнай сям'і. Яе маці, Сісі Х'юстан, стрыечная сястра Даён Уорык і хросная маці Арэта Франклін былі вядомымі персонамі ў свеце рытм-энд-блюза і соўла.

У 11 гадоў Уітні пачала саліраваць у хоры баптысцкай царквы ў Ньюарку. Пачатак сур'ёзнай музычнай кар'еры паклаў кантракт з гуказапісвальнай фірмай Arista Records у 1983. Уітні трапіла ў «Кнігу рэкордаў Гінэса» з найбольшай колькасцю ўзнагарод — у яе шэсць «Грэмі», пятнаццаць Billboard Music Awards, 21 — American Music Awards, дзве Emmy...

Самай знакамітай працай Х'юстан у кіно стала роля ў фільме «Целаахоўнік», а саўндтрэк да фільма з трэкам I Will Always Love You быў самым прадаваным у гісторыі кінематографа.



Фатальным для спявачкі стаў шлюб з рэперам Бобі Браўнам — муж прыахвоціў Х'юстан да наркотыкаў і алкаголю, часам збіваў яе. Яшчэ адной прычынай няшчасцяў было...неверагоднае багацце. «У нас было занадта многа грошай, — прызнавалася спявачка. — Часам мы цэлыя дні нічога не рабілі, толькі глядзелі тэлевізар і нюхалі какаін».

Згубныя звычкі пачалі адбівацца на творчасці. У 2000—2005 Х'юстан нярэдка адмяняла канцэрты і сустрэчы, выглядала нездаровай і паводзіла сябе на публіцы неадэкватна.

Пасля разводу ў 2007 спявачка ўзялася за розум: скінула лішнія кілі, пачала працаваць.

Аднак прычынай смерці 48-гадовай Х'юстан, відаць, былі заганныя звычкі з мінулага. На думку лекараў, спявачка, вярнуўшыся з бурлівай вечарынкі, заснула ў ванне свайго гатэльнага нумара пад уздзеяннем алкаголю і антыдэпрэсантаў. У яе лёгкіх была знойдзеная вада: магчыма, Х'юстан захлынулася, не здолеўшы прачнуцца.

**Сяргей Мікулевіч**

**Адэль стала шасціразовай уладальніцай «Грэмі»**

Брытанская спявачка Адэль стала ўладальніцай шасці прэмій «Грэмі», у тым ліку за найлепшую песню, а амерыканская група Foo Fighters стала пяціразовым яе лаўрэатам. Уручэнне ўзнагародаў «Грэмі» праходзіла ў Лос-Анжэлесе ў гэту нядзелю 54-ы раз. Цырымонія была прысвечаная Уітні Х'юстан, што памерла напярэдадні.

## Вольскі раздаваў аўтографы на капоце аўто

«Крамбамбуля» **прыняла квіткі** з адмененага канцэрта.

11 лютага ўвечары людзі прыйшлі да мінскага клуба RE:public, каб вярнуць квіткі на адменены канцэрт «Крамбамбулі» і паразмаўляць з Лявонам. З-за вялікага марозу людзі вярталі квіткі ў салоне аўто. Сустрэча ля ганка RE:public доўжылася больш за гадзіну.

Квіткі здалі каля 100 чалавек. «Некаторыя не хацелі забіраць грошы, але мы настаялі», — расказаў «НН» Лявон Вольскі. Ён не губляе надзею на выпраўленне сітуацыі з арганізацыяй канцэртаў у Беларусі. А пакуль запрашае ўсіх на прэзентацыю новага альбома «Крамбамбулі».

Прэзентацыя альбома «Драбадзі-драбада» мелася прайсці 11 лютага ў сталічным клубе RE:public. Аднак кіраўніцтва клуба заявіла, што канцэрт адменены «з-за пэўных абставінаў». На 11 лютага ў клубе прызначылі зборны канцэрт з удзелам гуртоў Akute, «Петля Пристрастия», Yellow Brick Road і Дзімы Ску. Музыкі сказалі са сцэны словы салідарнасці з «Крамбамбуляй».

Гурт Вольскага ўключаны ў чорны спіс прадстаўнікоў кіно, музыкі, мастацтва, якім забаронена канцэртаваць у Беларусі ды з'яўляцца на тэле- і радыёканалах па палітычных прычынах.

**Сяргей Гудзілін**



**Прэзентацыя альбома «Драбадзі-драбада»** пройдзе ў Вільні 21 красавіка ў клубе Tamsta (Subačiaus, g. 11a) і 26 красавіка — у Празе ў клубе Matrix (Konevova, 13).

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Сцісла

**Фільм «Артыст» стаў трыумфатарам прэміі BAFTA**

На цырымоніі ўручэння прэміі Брытанскай акадэміі кіно і тэлевізійных мастацтваў BAFTA 12 прызоў атрымала нямая чорна-белая стужка «Артыст» французскага рэжысёра Мішэля Хазанавічуса. Кінаўзнагароды BAFTA штогод уручаюць у Каралеўскім тэатры оперы і балета «Ковент Гардэн».

**Рэжысёр фільма «Талаш»: Нападак на палякаў мы не хацелі**

На БТ прайшла прэм'ера фільма «Талаш» паводле аповесці Якуба Коласа «Дрыгва». Кіно, прысвечанае падзеям савецка-польскай вайны 1920-га і змаганню супраць «польскіх акупантаў», выклікала вострую рэакцыю польскага боку. Палякі паказаныя карыкатурнымі і жорсткімі, нібы немцы ў савецкіх фільмах, піша Gazeta Wyborcza.

Рэжысёр фільма Сяргей Шульга кажа, што «прэтэнзій да палякаў (паказаных у фільме) быць не можа. Акрамя адной: калі заваёўнікі прыходзяць на чыюсьці зямлю, яны з'яўляюцца заваёўнікамі». Дзіўным, аднак, з'яўляецца само рашэнне экранізаваць «Дрыгву» якраз пасля гучных абвінавачванняў, якія гучалі з вуснаў Лукашэнкі на адрас Польшчы.

**СМ**

### Каляндар

## Паэт, які пратэставаў супраць карнай псіхіятрыі



Споўнілася 75 гадоў паэту, медыку і дысідэнту **Алесю Наўроцкаму**.

Прафесійны медык, ён стаяў асобна ад «філалагічнага пакалення» 1960-х. Крытыкі бачылі ў яго першых зборніках «Неба ўсміхаецца маланкаю» і «Гарачы снег» матывы паэзіі Уолта Уітмена і Пабла Неруды. У 1978-м Наўроцкі, пратэстуючы супраць ужывання да іншадумцаў псіхіятрыі, выйшаў з Саюза пісьменнікаў. І падпаў пад ідэалагічную абструкцыю. Наступны яго зборнік «Пакаленні і папялішчы» выйшаў толькі ў 1990-я. Цяпер паэтычныя падборкі Наўроцкага часам з'яўляюцца ў незалежных газетах.

**Алесь Наўроцкі**

Прымаю роды

Жалезны стол. Вам так нязвыкла.
З усіх бакоў трымаюць вас.
Расколваецца ад крыку
ў акушэркі галава.

Што ж, рукі мы заспіртавалі,
і нам цяпер патуг чакаць.
Крычыце, як да вас крычалі
і будуць пасля вас крычаць.

Вы самі з вёскі. Вам сямнаццаць.
Дацэнт вас прыпісаў у Мінск.
Былі за няньку. Усміхацца
вам стаў таго дацэнта сын.

Што ён жанаты быў, — вы зналі.
Вы зналі, што ён меў сям'ю.
І ўсё ж вы гэтак сплюсавалі
з яго ўсмешкаю сваю,

што зараз звонкі крык ударыць
і усміхнуцца ўсе вакол…
Э, не гаруйце! Шмат хто марыць
Патрапіць на такі вось стол.

Я знаю, што непадалёку
дзяўчына ёсць, жыве адна —
пакінутая, адзінокая…
А час не дрэмле. Сівізна

асядзе хутка ёй на скроні
на пышнасць чарнаватых кос.
Мужчыны на сваёй далоні
яшчэ яе трымаюць лёс.

Той, хто прынесці мог бы ласку,
травой пакрыты ў полі спіць,
з яго прабітай у полі каскі
ў неба жаўранак ляціць.

Ёй сніцца ваша доля часам,
як глыб нябеснай сінявы,
яна б не войкнула ні разу,
каб толькі легчы там, дзе вы.

Што ж, рукі мы заспіртавалі,
і нам цяпер патуг чакаць.
Крычыце, як да вас крычалі
і будуць пасля вас крычаць.

# Мой маленькі сусвет

Урэшце, я сказала сабе і маленькаму чалавечку, чыё сэрцайка білася цяпер ува мне: мы моцныя, мы ўсё вытрымаем і ўсіх пераможам. Піша **Настасся Азарка**.

Няўцямная, неспадзяваная, нечаканая здагадка аднойчы пракралася ў мае думкі і выбухнула сярод іх адчуваннем нараджэння сусвету.

Гэта было падобна да казкі, да сну, да нечага такога, нерэальнага, пра што я так даўно марыла і ўжо пачынала страчваць спадзяванні і надзею на тое, што яно адбудзецца. Я яшчэ не верыла, але недзе там, дзе ўжо існаваў сусвет, я ўжо ведала, што ён насамрэч існуе. І гэта было нерэальна цудоўна.

Прыслухоўваючыся, я лавіла кожны рух, кожнае змяненне, я нібыта бачыла, як мірыяды малюсенькіх частачак зоркавага пылку злучаюцца паміж сабой, ператвараючыся ў яго. І шчасце, найвялікшае шчасце, веліч якога нельга нават сабе ўявіць, апаноўвала, захліпала, раставарала мяне ў гэтым новым сусвеце, які нараджаўся там...

Пасля столькіх гадоў чакання. Божая ласка, міласэрнасць... Блаславенне і крыж, якія Ён нечакана падараваў мне.

Я — мама. Гэтыя чароўныя словы, напоўненыя таямніцай усяго існавання чалавецтва. У іх — найвялікшая радасць, найвышэйшы сэнс... Дзіця, якое насамрэч было дадзена мне Богам...

Гэтае цудоўнае адчуванне эйфарыі не здолела нават зрушыць тая акалічнасць, што дзіця будзе гадавацца без роднага таты. Я не буду апавядаць пра яго, бо гэта не важна. Таму што бацька не той, хто зрабіў, а той, хто выгадаваў.

Я хадзіла, прыслухоўваючыся да таго, што рабілася там, дзе нараджаўся мой маленькі сусвет. А вясна ўжо была шалёнай.

Горад, які цяжка міраўся са мною, усёй сваёй істотай абрынуўся супраць майго будучага дзіцяці.

Я адчувала з боку дактароў абыякавае стаўленне да мяне як да будучай маці. Мяне доўга не хацелі ставіць на ўлік.

Пазней адзін дасведчаны чалавек мне растлумачыў: медыкі думалі, што я перадумаю і зраблю аборт... І яшчэ доўга ў графу «бацька» не ставілі нават прочырку, а калі давялося паставіць, дык з такім выглядам, маўляў, ведаем мы вас такіх, адзіночак, самі жывяце разам, а грошы ў дзяржавы цягнеце.

Нікога не хвалюе тое, што некаторыя жанчыны маюць розныя жыццёвыя сітуацыі, з-за якіх вымушаны гадаваць дзіця адны. Мая цяжарнасць была праблемнай, але дактары да ўсяго паставіліся з высокай вежы. Кантроль? Калі табе кепска — калі ласка, кладзіся ў бальніцу, адпачні, а больш мы нічога табе зрабіць не можам. Што да лекара, дык ён увогуле паводзіў сябе так, нібыта перад ім была не будучая мама, а так, няхворая пацыентка. З ягоным стаўленнем я зразумела, што патрэбна самой шукаць месца для народзінаў, а лепей за ўсё, бабку-павітуху.

Была палёгка толькі ў тым, што кіраўніцтва завода пайшло мне насустрач, і я, працуючы на сваім ранейшым месцы, проста адпачывала, у параўнанні са становішчам цяглавай кабылы паўгода таму.

Стаўленне адміністрацыі да мяне вельмі змянілася з тае хвіліны, калі ўсе даведаліся пра маю цяжарнасць. Змянілася ў лепшы бок — усім хацелася мне дапамагчы...

Хаця хапала і нервовасцяў. Лекары, якія, замест таго каб падтрымліваць здаровую дэмаграфічную сітуацыю, рабілі ўсё наадварот. Міліцыя, якая паабяцала забраць маё дзіця ў сілу маіх «антысацыяльных» паводзінаў. Чалавек, які адмовіўся ад дзіцяці, яшчэ калі той быў не большы за 2 мм і які патрабаваў аборту і рабіў усё магчымае, каб я страціла дзіця. Родны бацька, які, замест таго каб дапамагчы, хоць неяк праявіць сябе ў якасці дзеда, прапіў усю маю цяжарнасць, моцна чакаючы моманту, калі я нараджу — каб выпіць яшчэ больш. Уражаны Горад — для ўсіх чамусьці я і цяжарнасць былі паняцці несумяшчальныя — не чуеш і не бачыш нічога акрамя здзіўлення, нібыта я вытварыла нешта звышнатуральнае.

Ціск, велізарны маральны ціск, а я вымушана была маўчаць, глытаць і чакаць. Таму што я тут была адна. Таму што майму дзіцяці маглі пашкодзіць.

Урэшце, я сказала самой сабе і маленькаму чалавечку, чыё сэрцайка білася цяпер ува мне: мы моцныя, мы ўсё вытрымаем і ўсіх пераможам. Міхаліна перамагла. Яна нарадзілася ў Мінску.

Мы з мамай выбілі накіраванне ў Мінскі абласны раддом, і, як аказалася, нашыя патрабаванні нарадзіць менавіта там, а не дома, былі слушнымі.

Апошнія тыдні цяжарнасці даліся цяжка. Падняўся ціск — ён зашкальваў ці не да страты прытомнасці, але разам з тым я адчувала ў сабе сілы да самай апошняй, вырашальнай для маёй дачкі, хвіліны.

Я ўдзячная тым медыкам, якія дзяжурылі ў ноч на 25 лістапада, — шкада, не запомніла іх прозвішчаў... І, як у фільмах, каталка, доўгія калідоры з лямпамі на столі, крапельніцы і апарат, што мерае ціск кожныя паўгадзіны... Тры дні прабавіла ў рэанімацыі. А потым яшчэ тыдзень нельга было карміць маю маленькую з-за лекаў, якімі проста нашпіквалі мяне. Дактары вызначылі — гестоз, трамбоз, ледзьве не адмаўляюць ныркі, карацей, я ўжо не баец...

Але вярнуліся дахаты і ўсё прыйшло ў норму. Мы моцныя. Мы ўсё вытрымалі і ўсіх перамаглі. І мы яшчэ паваюем.

*Нясвіж*



**Наста Азарка**

дзяўчына з Нясвіжа, прайшла праз крымінальны пераслед за свае погляды і дзейнасць. Нарадзілася ў 1981 у вёсцы Квачы Нясвіжскага раёна, адвучылася ў Ганцавіцкім ПТВ і Нясвіжскім каледжы. Была ў «Маладым Фронце», цяпер падтрымлівае «Маладую Беларусь».

**Я — мама. У гэтых словах — найвялікшая радасць, найвышэйшы сэнс »**

# Беларуская глыбіня. **Забыць героя**

*Хто ты, што баішся чалавека, які паміpае, і сына чалавечага, які тое самае, што трава, і забываеш Госпада Творцу свайго...*
*Ісаі 51:13*

Піша **Павел Севярынец**.

«А калі зноў Расія, Паш?» — дзядзька бяссільна апускае галаву на рукі, і ў валасах знічкамі праблісквае і згасае сівізна. — Што, за ствол і ў Пушчу?..»

Быццам вырваны з зямлі, каранiстыя пальцы курчацца ў сутарзе.

«Заб'юць. І ніхто не памяне нават. Нікому тут тваё геройства не трэба».

Каму яно наогул трэба, беларускае геройства? Сам шукаў, распытваў надоечы пра беларускую незалежніцкую партызанку на Пружаншчыне. Была, але хто, дзе, калі?

Прагортваю з дзясятак кніжак. Крохі. Чытаю, шукаю між радкоў і прозвішчаў. Перабіраю ўсіх сваякоў з Палесся, пакутліва намагаюся зразумець: як так, людзі?..

Насамрэч народ мы памятлівы, да самазабыўнасці. Дробныя рахункі з суседам усё жыццё трымаем у кішэні. Добра памятаем, што «высоўвацца» нельга — гэта на ўзроўні мускульнага здранцвення, пры выпадку аніводнае валаконца не здрыганецца. Расійскую, польскую, украінскую, англійскую мову запамінаем злёту, асвойваем лепш за карэнных...

Ну, вы ўжо здагадаліся, да чаго гэта я.

Паміж апошняй вайной і сённяшнім часам — працягласць усяго аднаго чалавечага жыцця. Яшчэ жывыя сведкі, як раз'ятраная цывілізацыя, паставіўшы чалавека на месца Бога, знішчала беларусаў з Захаду на Усход — дзеля «звышчалавецтва»; з Усходу на Захад — у імя «чалавечай роўнасці», з аднолькавай нялюдскай жорсткасцю.

Хто быў героем тады? Ушанаваныя чырвонымі зоркамі за выкараненне карычневай чумы? Узнагароджаныя жалезнымі крыжамі за выпальванне чырвонай пошасці? Акоўцы, якія знішчалі нязгодных з «рыжскім мірам»? Тыя, хто сядзеў ціха і рабіўся раптоўнай ахвярай з таго ці іншага боку? Ці той, хто адчайна стараўся абараніць чалавека, свайго бліжняга, ад гвалту ды нянавісці?..

І хаця сёння адказ відавочны, настолькі ж відавочная і рэчаіснасць: апошніх памятаюць менш за ўсё. Беларусаў, якія ў самы страшны час абаранялі саміх беларусаў, беларусы забылі.

Ураджэнец вёскі Харава Пружанскага раёна (7 км ад Купліна) Якуб Новік ва ўзросце Васьковіча ды Ліхавіда са зброяй у руках пайшоў у Пушчу, дзе хутка зрабіўся кіраўніком беларускага атрада. Ахоўваў беларусаў ад асаднікаў ды «санацыі», затым перайшоў праз мяжу ў БССР; у 1937, шуканы энкавэдзістамі, — назад... У саракавых, падчас вайны, стварыў беларускую незалежніцкую партызанку, не даваў лютаваць на беларускім Палессі ні нацыстам, ні бальшавікам...

А жывыя, нашчадкі ўратаваных ім тутэйшых, паціскаюць плячыма. Якуб Харэўскі? Новік? Мо і быў тут... нейкі...

Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, што нарадзіўся за 30 км адсюль, у Поразаве, на ўзмежжы Белавежскае пушчы, сябра Рады БНР і заснавальнік Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, які пераклаў для Касцёла Новы Запавет на беларускую мову і першым пачаў служыць імшу ў Мінску па-беларуску, стварыў незалежніцкае падполле, што змагалася супраць фашыстаў ды саветаў і вяло перамовы з заходнімі саюзнікамі — схоплены гестапаўцамі пасля імшы ў ноч на Раство 1942 і расстраляны ў Трасцянцы...

Як-як? Гадлеўскі?.. Ані знаку.

А знішчаныя атрадамі Арміі Краёвай беларускія праваслаўныя святары, тыя, хто гуртаваў людзей, каб ім не было так страшна працягваць жыць?.. Канстанцін Маеўскі, Іван Аляхновіч, закатаваны разам з матушкай, Міхаіл Леванчук — з усёй сям'ёй? Іераманаха Лукаша з блізкага Жыровіцкага манастыра акоўцы жывüцом закапалі ў зямлю да галавы, а вакол распалілі вогнішча і палілі да той пары, пакуль ад галавы не застаўся адно чэрап.

Што ты такое кажаш... Іх-та за што?

Ды не «за што»: ЗА каго. За нас з вамі.

Як жа лёгка мы забываемся, калі нехта ахвяруе за нас жыццё!.. А між тым здольнасць аддаць сябе за бліжніх — найвышэйшая праява Боскай любові, найпаўней выяўленай у Хрысце: «Няма большай за тую любоў, як калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх» (Евангелле паводле Яна, 15:13).

Для беларуса здабыць у сабе беларуса — значыць укрываць у сабе Хрыста. Замест таго каб выракацца ўласнага эгаізму, праслаўтай «хаты з краю» і злоснага «ды-пайшлівы-ўсе!» — беларус шукае для свайго немаленькага, скурчанага, але яршыстага «я» яшчэ ямчэйшую нацыянальную скуру: то расійскую, то польскую, то савецкую.

І тады з глыбіняў душы выпаўзае «самае чалавечнае» аб «звышчалавечае» — пыхлівая пагарда, чортава прага таннага хлеба ці крывавых відовішчаў, што пнецца выбухнуць крыкамі «Укрыжуй!»

Наша ўратаванне — у прасякнутай болем і любоўю да іншых нацыянальнай памяці. Бо, забываючы тых, хто пайшоў на смерць дзеля нас, мы забіваем у сабе і сябе, і Бога.

*Куплін*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**Як жа лёгка мы забываемся, калі нехта ахвяруе за нас жыццё »**

# Якія беларускія кнігі гатовыя чытаць у Германіі?

Адказ шукалі падчас Міжнароднай кніжнай выставы ў Мінску.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Заходнееўрапейскія стэнды на Міжнароднай кніжнай выставе ў Мінску заўжды вызначаюцца. У іх няма імкнення дэманстраваць «дасягненні народнай гаспадаркі». Хутчэй, яны занураюць чытача ў атмасферу ўтульнай еўрапейскай кнігарні. Узорнымі тут могуць быць нямецкія стэнды.

Сёлета Германія на выставе была на правах звычайнага госця. Сапраўдны трыумф нямецкай кнігі ў Мінску быў летась, калі 250 квадратных метраў залы выстаўнага комплексу «Белэкспа» былі аддадзеныя Нямеччыне як ганароваму госцю. Сцяжкі, сталы з зялёнымі яблыкамі і паштоўкамі з выявай Бертольта Брэхта — усе гэтыя дробязі надзейна адклаліся ў памяці.

## Ад Нобелеўскай прэміі да гольфа

Цяпер «падвойны» стэнд Германіі (а кнігі краіны прэзентавалі паасобку пасольства і Інстытут Гётэ) выглядаў куды больш сціпла, але з належным густам. На невялічкай пляцоўцы змясціліся выданні ўсіх планаў — ад найноўшай мастацкай літаратуры да раскошных фотаальбомаў з вуліцамі Берліна, ад дзіцячых кніг (калі ўжо ў Беларусі дзіцячая кніга стане выглядаць настолькі прывабна) і да асобнага стэнда, прысвечанага шматлікім хобі, дзе і гольф, і раслінаводства. Тут жа можна ўбачыць і апошнія бестселеры — такія, як кніга Марціна Вальзэра «Сын сваёй маці» ці кнігі нобелеўскай лаўрэаткі 2009 года Герты Мюлер.

«Самая дарагая кніга на нашым стэндзе, яна ж самая цяжкая, — гэта даведнік «Гатэлі класа «люкс», — жартуе намеснік амбасадара Германіі Петэр Дэтмар. — Але я не буду казаць, што яна каштоўнейшая за любую дзіцячую кнігу ці новы раман. Мы адбіралі кнігі так, каб прадставіць увесь спектр нашага кнігавыдання». На нямецкамоўных стэндах былі не толькі выданні, датычныя Германіі. Тут можна было знайсці і пераклады з іншых еўрапейскіх моваў ці, напрыклад, шыкоўна выдадзены альбом, прысвечаны жыццю Стыва Макуіна.

Кнігі не прадаваліся — пасля выставы іх перадалі ў навучальныя ўстановы, дзе вывучаюць нямецкую мову.



**Катарына Раабэ, прадстаўніца Suhrkamp Verlag.**

**XIX Міжнародная кніжная выстава-кірмаш**

праходзіла ў выстаўным комплексе «Белэкспа» ад 8 да 12 лютага. Узялі ўдзел 20 краін, сярод якіх Германія, Расія, Францыя, Італія, Куба і Іран. Ганаровым госцем стала Венесуэла. Выставу наведалі 50 тыс. чалавек, адбылося 600 мерапрыемстваў, у тым ліку прэзентацыі кніг, майстар-класаў і семінараў.

**Suhrkamp Verlag**

адно з найлепшых выдавецтваў у Германіі. Заснаванае ў Франкфурце-на-Майне ў 1950. Спецыялізацыя — элітарная літаратура. У розны час там былі надрукаваныя пераклады кніг Сэмюэля Бекета, Марсэля Пруста, Ізабэль Альендэ, Т.С. Эліота і Марыны Цвятаевай.

## Медыя-аўтобус

Ля ўвахода ў «Белэкспа» стаіць дзіўны аўтобус, размаляваны пад кніжную паліцу. Гэта адзін з праектаў Інстытута Гётэ. Штомесяц медыя-аўтобус выпраўляецца з Мінска па маршруце Бабруйск — Маладзечна — Баранавічы. І ў кожным з гарадоў пераўтвараецца ў бібліятэку.

Чаму гэтыя гарады? Бо ў Маладзечне і Бабруйску ёсць спецыялізаваныя нямецкія школы, а ў Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце існуе факультэт замежных моваў, дзе вывучаюць нямецкую. Аднак у медыя-аўтобус прыходзяць не толькі школьнікі-студэнты, але і людзі сталага веку, якія валодаюць мовай, — дзе яшчэ знойдзеш такі выбар нямецкай літаратуры.

Усярэдзіну вас упускаюць пасля званка, пад шоргат пнеўматычных дзвярэй. Салон нагадвае кнігарню — тут 3000 кніг па-нямецку або перакладзеных з нямецкай. Супрацоўнікі Інстытута імкнуцца ахапіць усе сферы — ад дзіцячых кніг, якія дапамогуць вывучыць мову самым маленькім, да Гейнэ, Гесэ і Рэмарка ў арыгінале. Ад слоўнікаў да падарожных даведнікаў па Германіі.

«Мы робім так: раз на два тыдні аўтобус прыязджае ў Баранавічы, Маладзечна і Бабруйск, — распавядае бібліятэкарка з Інстытута Гётэ. — Прыходзяць мясцовыя бібліятэкары са спісам замоваў і атрымліваюць тую ці іншую кнігу або дыск. Некаторыя кнігі, праўда, можна чытаць толькі на месцы, але для гэтага ў нас таксама ёсць умовы».

Выбар кніг уражвае — альбом «Замкі Баварыі», раскошнае выданне «Працэсу» Кафкі з факсімільнымі выявамі рукапісу. На паліцы з фільмамі — уся нямецкая класіка, а музычны аддзел можа выклікаць прыступ вострай зайздрасці ў меламанаў — «падарунковыя» выданні Вагнера і Бетховена стаяць побач з рэдкімі ў нашых краях Баргельдам і Штакхаўзенам.

У адну з «беларускіх нямецкіх» школ паедзе і чамадан з дзіцячай літаратурай, які збіраўся падчас выставы на стэндзе Інстытута Гётэ. Гэта прыз для пераможцы конкурсу на найлепшае сачыненне пра Германію. Побач на стэндзе можна ўбачыць і беларускія выданні: «нямецкі» нумар часопіса «Партызан», нумары «Дзеяслова» з перакладамі з нямецкай. Побач — нямецкамоўны зборнік вершаў Алеся Разанава «Месяц думае, Сонца разважае». У першы дзень выставы на стэнд інстытут Гётэ завітала Катарына Раабэ, спецыялістка па ўсходнеславянскай літаратуры выдавецтва Suhrkamp Verlag — аднаго з найбуйнейшых у Германіі. Выдавецтва стала цікавіцца літаратурай Беларусі.

**Інстытут імя Гётэ**

культурніцкая ўстанова Германіі, якая мае філіялы ў розных краінах свету. Мэты Інстытута — пашырэнне міжнародных сувязяў і папулярызацыя нямецкай мовы. Апроч курсаў па вывучэнні мовы, Інстытут Гётэ займаецца шматлікімі культурнымі праграмамі і арганізацыяй культурных мерапрыемстваў. У Мінску філіял Інстытута працуе з 1993.

## Беларуская перспектыва

Некаторыя беларускія аўтары ў Германіі выдаваліся: Вальжына Морт, Алесь Разанаў і Святлана Алексіевіч, выходзілі асобныя творы Уладзіміра Арлова. Але кніг, якія б набылі вялікую папулярнасць сярод немцаў, пакуль не было.

«Беларуская літаратура можа быць папулярная ў Германіі, — казала Катарына Раабэ. — Але тут важна злавіць момант. Вось, напрыклад, цікавасць да ўкраінскай літаратуры ўзнікла падчас Аранжавай рэвалюцыі. Тады Германія адкрыла для сябе Андруховіча і Жадана».

Праблема перакладу хоць няпростая, але вырашальная, кажа спадарыня Раабэ: «Часам перакладчыкі самі знаходзяцца. Вось Андруховіча з украінскай перакладала жанчына, якая выпадкова трапіла на яго выступ у Берліне». Да апантанасці перакладчыка дадаецца прафесійная праца рэдактараў, якія працуюць з кнігай у выдавецтве, а таксама славістаў, якія імкнуцца захаваць аўтарскую мову. Перакладчыкаў з беларускай мовы мала, адзначыла спадарыня Раабэ, але яны ўсё ж такі ёсць.

На сустрэчу са спадарыняй Раабэ ў Інстытут Гётэ прыйшлі «топавыя» беларускія літаратары: Уладзімір Арлоў, Андрэй Хадановіч, Адам Глобус, Віктар Марціновіч, Уладзіслаў Ахроменка. Прадметам гутаркі стала тое, як зацікавіць нямецкую публіку беларускай літаратурай, ці ўзнікнуць праблемы з перакладамі, ці напраўду ўсё залежыць ад дзейнасці літаратурнага агента і чаго немцы ўсё ж такі чакаюць ад беларускай літаратуры.

На апошняе пытанне вычарпальна адказаў дырэктар Інстытута Гётэ Франк Бауман, які не працуе з выдавецтвамі, а хутчэй выказвае думку нямецкага чытача: «Вялікую папулярнасць цяпер у Германіі маюць замежныя аўтары, чые творы адказваюць на ўсё тыя ж самыя агульначалавечыя пытанні сэнсу жыцця, смерці, кахання, але з улікам спецыфікі краіны, якую прадстаўляе аўтар. Напрыклад, вялікім поспехам у Германіі карыстаюцца кнігі азербайджанскай пісьменніцы Рэны Юзбашы, якая апісвае жыццё ў Баку, пры гэтым піша не дакументальныя, а мастацкія творы. Гаворка ідзе не абавязкова пра палітыку. Але нямецкага чытача будзе цікавіць спецыфіка жыцця ў Беларусі, якая, зразумела, адбіваецца як на аўтарах, так і на творах».

**Юрась Ускоў**

# Аліна Арлова ў Мінску



Літоўская спявачка Аліна Арлова выступіць з канцэртам у клубе RePublic у Мінску (Прытыцкага, 62/1) 25 лютага. Цана білетаў ад 140 да 280 тысяч, прыкладна столькі каштавалі квіткі на віленскі канцэрт Аліны, што прайшоў 12 снежня.

## ДЫКТОЎКА

### Пятая Агульнанацыянальная

**21 лютага ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!»** адбудзецца 5-я Агульнанацыянальная дыктоўка. **Пачатак у 17.30 на Сядзібе ТБМ (Румянцава, 13).**

## БАСКЕТБОЛ

### Адзіная ліга ВТБ

**15 лютага «Мінск-2006»** прыме «Спартак» (Санкт-Пецярбург). **Пачатак у 19.00, «Мінск-Арэна».**

## ХАКЕЙ

### У гасцях «Аўтамабіліст» і «Трактар»

**У рамках Кантынентальнага хакейнага першынства 17 лютага** мінскае «Дынама» прыме екацярынбургскі «Аўтамабіліст», а праз два дні чалябінскі «Трактар». Гэта апошнія матчы гэтага рэгулярнага першынства ў Мінску.

## ГАНДБОЛ

### Кубак кубкаў

**18 лютага ў рамках 1/8 фінала** гандбольнага Кубка кубкаў брэсцкі БГК імя Мяшкова прыме дома шведскі клуб «Лугі». **Пачатак у 16.00. Палац спорту «Вікторыя».**

## ІМПРЭЗЫ

### Масленіца ў Дудутках

**25 лютага а 12-й Дудуткі** запрашаюць на Масленіцу. Гасцей чакаюць жывая музыка і танцы, стральба з лука, падарункі на масленічным слупе, катанне на конях і санях, рамесніцкія майстэрні…

### Дыктатар

**18 лютага а 14-й у кнігарні «логвінаЎ» (пр.Незалежнасці 37а)** — прэзентацыя дзіцячай кнігі Ульфа Старка «Дыктатар» (папяровае выданне+электронная версія). Бяруць удзел аўтар, шведская літаратуразнаўца Яніна Арлоў, перакладчыцы Наста Лабада і Вольга Рызмакова.

## КАНЦЭРТЫ

### PANaNieba

**23 лютага а 19-й у клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** пройдзе прэзентацыя новага альбома рэпгурту PANaNieba «71».

### Князь Мышкін

**27 лютага а 18-й у «Арт-Сядзібе» (Куйбышава, 22, гандлёвы дом «Гарызонт», другі паверх)** адбудзецца вялікі сольны канцэрт групы інтуітыўнаq імправізацыі «Князь Мышкін».

### Разбітае сэрца пацана

**24 лютага а 19-й у клубе Re:public** — канцэрт гурта «Разбітае сэрца пацана».

## ВЫСТАВЫ

### Арт-крок

**Да 24 лютага ў галерэі «Лабірынт»** Нацыянальнай бібліятэкі працуе дзясятая юбілейная мастацкая выстава «Арт-крок». На выставе прадстаўлены творы 50 беларускіх мастакоў, сярод якіх Уладзімір Кожух, Васіль Касцючэнка, Анатолій Бараноўскі і іншыя.

### Каліграфія

**У галерэі «Мабільная» Нацыянальнай бібліятэкі да 3 сакавіка** працуе выстава каліграфіі Лі Цзо (Кітай).

### Дрэва жаданняў

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 4 сакавіка** працуе выстава твораў Ганны Сілівончык «Дрэва жаданняў». Работы, прадстаўленыя на выставе, — спроба паказаць парадаксальныя і неадназначныя праявы кахання.

### Падарожжа па Купалавым доме

**Да 18 лютага Літаратурны музей Янкі Купалы** запрашае закаханых у незвычайнае, поўнае новых уражанняў падарожжа па Купалавым доме. Шчаслівы вынік кахання — адно жыццё, пражытае на дваіх. Для Янкі Купалы верным спадарожніцай па жыцці была Уладка Станкевічанка. У музейных падарожнікаў будзе ўнікальная магчымасць наведаць прысвечаную ёй выстаўку.

### Выпадковае танга

**Да 19 лютага ў галерэі tut.by (В.Харужай, 1а)** працуе выстава графікі Сяргея Баленкі «Выпадковае танга». Сяргея Баленку называюць «нетыповым» і нават «скандальным» мастаком, адзначаючы асаблівую лірычнасць яго-ных прац…

### Судакрананне

**Да 18 лютага ў галерэі візуальных мастацтваў Nova (Кульман, 2)** працуе выстава «Судакрананне. Праект Максіма Дасько» — першы персанальны праект маладога мінскага аўтара, чые творчыя пошукі прывялі да разумення асаблівага статусу негатыва ў фатаграфічным працэсе.

### Прасторы вольныя зямлі

**Да 27 лютага ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Прасторы вольныя зямлі» (беларускі пейзаж 1950-2000-х), на якой прадстаўлена каля 80 жывапісных твораў беларускіх мастакоў, выкананых у жанры пейзажу.

### Мацэвы штодзённага ўжытку

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12) да 23 лютага** працуе фотавыстава Лукаша Баксіка «Мацэвы штодзённага ўжытку».Фатограф даследуе лёс яўрэйскіх надмагілляў (мацэваў) пасля Другой сусветнай вайны, фіксуе шматлікія выпадкі выкарыстання яўрэйскіх надмагілляў як будаўнічаuа матэрыялу.

### Новы год: час мінскі

**Да 1 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Новы год: час мінскі». На выставе прадстаўленыя больш за 300 прадметаў: гадзіннікі і гадзіннікавыя механізмы самых разнастайных відаў і гістарычных часоў, творы жывапісу, графікі, фотаздымкі, прадметы побыту і інтэр'еру.





### Пілігрымка ў Росіцу

**18 лютага** Росіца запрашае на дзень успаміну мучанікаў-ксяндзоў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча. Пілігрымку ў Росіцу з Мінска арганізуюць айцы-марыяне з парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (м-н Сухарава).

Выезд з Мінска ў Росіцу адбудзецца 18 лютага ў 06.00 з Сухарава, са ст. м. «Каменная Горка» — у 06.10, са ст. м. «Усход» у 06.30. Вяртанне ў Мінск — каля 22.00/23.00.

Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефоне: +375 44 709 03 01 (velcom) Ірына Рубінава (e-mail: rub_irin@mail.ru).

## ТЭАТРЫ

### 16 лютага

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»

### 17 лютага

**Купалаўскі** — «Translations»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 18 лютага

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»

### 19 лютага

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Асцярожна, свіння!»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

### 20 лютага

**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 21 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»
**Оперы і балета** — «Карсар»

### 22 лютага

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Карсар»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 23 лютага

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Оперы і балета** — «Хаваншчына»
**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

### 24 лютага

**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

## КІНО

### Мадонна атакуе каралеўскі палац

**М.Ы. Верым у каханне (W.E.)**
Вялікабрытанія, 2011, каляровы, 115 хв.
**Рэжысёрка:** спявачка Мадонна
**Ролі выконваюць:** Эбі Корніш, Андрэа Райзбара, Оскар Айсаак, Джэймс д'Арсі, Рычард Койл
**Жанр:** Меладрама
**Адзнака:** 3 (з 10)

Кароль Вялікабрытаніі Эдуард VIII і амерыканка Уоліс Сімпсан пабраліся шлюбам насуперак традыцыям і грамадскаму меркаванню. Наша сучасніца, супрацоўніца «Сотбіс» Уоліс, названая ў гонар знакамітай амерыканкі, зачараваная гісторыяй рамантычнае пары. Уоліс Сімпсан, дзеля якой кароль выракся трона, дапаможа гераіні ў цяжкой сямейнай сітуацыі…

Фільм паставіла Луіза Вераніка Чыконе, вядомая публіцы як спявачка Мадонна. Амерыканская поп-зорка расказала пра лёс суайчынніцы, якая таксама была чужаніцай на Брытанскіх выспах. Карціна спрачаецца з нядаўня. стужкай «Кароль гаворыць», дзе Эдуард VIII і Уоліс Сімпсан — легкадумныя геданісты. Стужка спявачкі атрымалася грувасткай, з процьмай размытых кадраў. Але музычныя нумары і наіўная сучасная гісторыя — з закаханым рускім ахоўнікам — фільм ажыўляюць. Колішняя поп-скандалістка сцвярджае права жанчыны на простае сямейнае шчасце — і дзіця пад сэрцам.

**Андрэй Расінскі**



# Спатканне за грошы? — «Мае сэнс»

**Прынамсі, калі грошы ад яго ідуць на дабрачыннасць.**

«Мае сэнс» — гэта дабрачынны інтэрнэт-аўкцыён сустрэч. Як ён працуе? Вы запаўняеце анкету на аднайменным сайце (www.maesens.by) і становіцеся лотам на аўкцыёне. «Купіць» вас — дакладней, сустрэчу з вамі — можа той, хто прапануе больш грошай. Пасля аплаты пакупнік атрымлівае вашы кантакты, і вы дамаўляецеся на сустрэчу.

Грошы за сустрэчу арганізатары перадаюць у фонды дапамогі дзецям ці непасрэдна пераводзяць на дабрачынныя рахункі. Сярод фондаў — «Здароўе ў 21 век», «Шанец», «Дотык да жыцця». Па словах стваральніка праекта Дзяніса Кандратовіча, на дадзены момант на дабрачыннасць было пералічана каля 60 мільёнаў рублёў.

Мара Дзяніса — каб сустрэчы ладзіліся не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах Беларусі. У перспектыве — у іншых краінах. Каб заахвочваць удзельнікаў, арганізатары дамаўляюцца з кавярнямі і рэстаранамі. Напрыклад, Coffee On прапануе бясплатную каву ўдзельнікам, што купілі сустрэчу праз «Мае сэнс».

Сярод вядомых удзельнікаў праекта — хлопцы з гурта Litesound, спявак Герман, музыка Вадзім Марголін, вядучы БелМузТБ Дзмітрый Губіч, дыджэй «Радыё Мінск» Любоў Громава, «Міс Мінск-2011» Ульяна Валахоўская ды іншыя. Самым дарагім «лотам» стала прэтэндэнтка на тытул «Міс Мінск-2012» Яўгенія Ганчаронак. За сустрэчу з ёй выклалі больш за 2 мільёны рублёў!

**Былі выпадкі, калі сустрэчы перараслі ў сяброўства і нават каханне »**

Цікава, што за стваральніка сеткі гарадскіх гульняў «Энкаўнтэр» Івана Маслюкова «схапіліся» дзве дзяўчыны. Ніводная не хацела саступаць. У баталіях на форуме сайта адна з іх напісала суперніцы «Я бачыла твой профіль «Укантакце». У цябе ёсць мужчына! Што ён пра гэта падумае?!» І ўрэшце выйграла лот за 1 125 тысяч рублёў. Маслюкоў, у сваю чаргу, напісаў, што 24 гадзіны будзе ў поўным распараджэнні дзяўчыны. І гатовы выконваць яе пажаданні, «калі толькі яны не супярэчаць маім маральным асновам, якіх не так ужо і шмат».

Сустрэчы не абавязкова павінны быць разнаполавыя. Напрыклад, бізнэсмэна Аляксандра Кныровіча (холдынг «Сармат») за 1 мільён «купіў» хлопец. Яны прагаварылі ў кавярні дзве гадзіны.

Як набіць сабе цану на аўкцыёне? Па-першае, не паляніцеся запоўніць усе палі ў анкеце. Калі вы валодаеце ўнікальнымі здольнасцямі, у вас арыгінальнае хобі, гэта павялічыць шанец быць купленым. Па-другое, безумоўна, яркае, прыгожае фота. Як ні круці, сустракаюць па вопратцы.

Што да саміх сустрэч, іх працягласць, месца і фармат узгадняюцца дваімі ўдзельнікамі. Спатканне ні да чаго не абавязвае і можа быць спынена ў любы момант. Хоць былі выпадкі, калі сустрэчы перараслі ў сяброўства і нават каханне.

Назву праекта Дзяніс Кандратовіч прыдумаў разам з сябрам і калегам Міхаілам Карпіцкім: «Зладзілі «мазгавы штурм», было шмат варыянтаў. Нам падалося, што для Беларусі «Мае сэнс» — класная назва. Гэта пазіцыянуецца з тым, што дапамога дзецям мае значэнне, а па-беларуску — мае сэнс».

**Аксана Рудовіч**



**Лот «Яўгенія Ганчаронак» (удзельніца конкурсу «Міс Мінск 2012).**

**Кошт: 2 080 000 рублёў.**

«Удзельнічаю ў гэтым праекце, каб дапамагчы дзецям. Паколькі сваіх сродкаў у дастатковай колькасці не маю, я матывую ўдзельнікаў, у прыватнасці, мужчын, рабіць свае стаўкі за сустрэчу са мной. Гэта гульня, і некаторыя з задавальненнем у яе гуляюць, прыносячы істотную дапамогу дзецям. Вельмі часта ад выручаных сродкаў залежыць здароўе і нават жыццё дзіцяці. Сама сустрэча неабавязковая. Але калі чалавек цікавы, то чаму б не пасядзець разам, папіць кавы, паразмаўляць. Мне цікавыя погляды іншых людзей, іх жыццёвыя прыярытэты. Вельмі шмат добрых людзей, якія сапраўды жадаюць дапамагчы»

**Лот «Уладзімір Каракін» (гурт Litesound). Кошт: 136 000 рублёў.**

«Аўкцыён сустрэч — выдатная крэатыўная ідэя. Мяне запрасілі паўдзельнічаць, мне спадабалася, і я пагадзіўся. Спадзяюся атрымаць задавальненне не толькі ад таго, што я ўдзельнічаў у акцыі дапамогі дзецям, але і ад самой сустрэчы. Магчыма, «пакупнік» будзе цікавай прыцягальнай асобай і мы сустрэнемся яшчэ».



# На змену метрасэксуалам прыйдуць «дэндзі»

**Іх вылучаюць геданізм, індывідуалізм, прасунутасць у сферы найноўшых тэхналогій і любоў да прыроды.**

Адно з вядучых агенцтваў Парыжа, якое вывучае трэнды, вызначыла, які тып мужчын прыйдзе на змену метрасэксуалам. Па меркаванні экспертаў, новы феномен, які атрымаў умоўную назву «нэадэндзі», ужо фарміруецца, і яго галоўнымі асаблівасцямі, акрамя ўласцівай метрасэксуалам цязе да прыгожай адзежы, стануць геданізм, індывідуалізм, прасунутасць у сферы найноўшых тэхналогій і любоў да прыроды.

Па дадзеных агенцтва Peclers Paris, у новую катэгорыю мужчын трапляюць маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 30 гадоў — пакаленне, якое вырасла ў стагоддзе інтэрнэту.

Характэрна, што многія з іх маюць экстравагантны род дзейнасці, займаюцца музыкай, архітэктурай ці дызайнам. Эксперты адзначаюць, што густ і культурныя перавагі гэтых мужчын падобныя на «калейдаскоп», так яны моцна адрозніваюцца. Акрамя таго, «нэадэндзі», «выгадаваныя відэагульнямі», прывыклі да весялосці і хочуць атрымліваць задавальненне ад жыцця.

Што да вонкавага выгляду, у гэтым пытанні стаўленне новага тыпу мужчын да адзення, моды і касметыкі не адрозніваецца ад поглядаў метрасэксуалаў. Як і апошнія, яны гатовыя выдаткаваць буйную суму грошай на дарагія гарнітуры, скрабы для цела і модныя гаджэты.

Яшчэ адной асаблівасцю новага пакалення мужчын эксперты называюць самакрытычнасць і добрае пачуццё гумару.

«У пытанні адносінаў «нэадэндзі» выяўляюць уласцівую ім гнуткасць», — адзначаюць эксперты. — Яны не прымаюць сур'ёзных традыцыйных адносінаў, не стаяцца сур'ёзна да «межаў мужчынскага і жаночага».

**Gazeta.ru**

**Дарогі**

# У 2013 дарогі з Мінска ў абласныя цэнтры стануць платнымі

**Для грузавікоў. Лёс легкавікоў будзе вырашаны пазней.**

Дэпартамент «Белаўтадар» плануе з 2013 увесці плату за праезд па дарогах, якія злучаюць Мінск і абласныя цэнтры. Вызначана, што плаціць будуць кіроўцы грузавых аўтамабіляў з агульнай вагой больш за 3,5 тоны. Ці закране нованўвядзенне легкавікі і аўтамабілі з беларускімі нумарамі, пакуль невядома.

Пакуль што платнай застаецца толькі траса М1. «На ёй мы збіраем столькі сродкаў, што перавышае выдаткі на яе ўтрыманне (у гэту суму не ўваходзяць выдаткі на рамонт)», — кажуць дарожнікі.

«За дарогі мусіць плаціць той, хто імі карыстаецца, у гэтым няма нічога заганнага, — мяркуе дырэктар арганізацыі «За аўто» Арцём Шаркоў. — Але ў такім выпадку грамадства мусіць ведаць, як трацяцца сабраныя грошы. З іншага боку, і цяпер утрыманне дарог фінансуецца за кошт кіроўцаў, якія сплочваюць акцызы на паліва ці, напрыклад, размытнёўку аўтамабіляў».

**ЯМ**

**Тэлебачанне**

# МТІС апытвае мінчукоў: якія тэлеканалы тыя хочуць глядзець?

**EuroNews, BBC World ці «Мір»? Альбо «Белсат»?**

Найбуйнейшы тэлеаператар Мінска МТІС запытаўся ў сваіх абанентаў, якія каналы тыя хочуць глядзець. Анкета знаходзіцца на сайце кампаніі. Набор з «сацыяльных» каналаў «Беларусь-1», «Беларусь-2», АНТ, РТР-Беларусь, НТВ-Беларусь, СТБ змяніць нельга, але астатнія каналы нібыта можна выбраць.

Напрыклад, сярод інфармацыйных праграм можна выказаць сваю перавагу EuroNews, BBC World, РБК-ТВ ці каналу «Мір». А вось канала ТНТ няма нават у варыянтах адказу.

У спісе прапаноў можна дапісваць і свае ідэі, напрыклад, трансляцыю «Белсата».

**ЯМ**

**Адказы можна дасылаць** на элетронны адрас marketing@mtis.by ці ў офіс кампаніі (220100, Мінск, вул.Цнянская, 23а, каб.7).



Конкурс скульптур са снегу ў Цэнтральным батанічным садзе ў Мінску скончыўся нечаканым вынікам — удзельнікі зляпілі снежную галаву, падобную на прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



World Press Photo 2011 — жанчына з параненым сваяком у мячэці, пераабсталяванай пад палявы шпіталь, падчас дэманстрацый супраць прэзідэнта Алі Абдулы Салеха ў Емене 15 кастрычніка 2011 года. Першы прыз у катэгорыі «Людзі ў навінах» за адзінкавае фота.



У Нясвіжы прайшоў байкерскі фестываль «Завіруха-2012». Яго арганізатарам стаў мясцовы матаклуб Desperados. У пачатку мерапрыемства гледачы маглі паназіраць за рэканструкцыяй ваенных падзей 1944.



Першая ракетка свету Вікторыя Азаранка надала сваім валасам яшчэ больш светлае адценне. «Тры гадзіны правяла ў цырульні, пасля чаго стала нерэальна бландзіністай. І гэта мне падабаецца!» — напісала Вікторыя на сваёй старонцы ў Facebook.

## Анекдоты

* * *

Апазіцыя рашаецца на байкот, як улада на дэвальвацыю.

* * *

Калі пісаць шпаргалкі на 100-тысячных купюрах, то спроба выкладчыка забраць шпаргалку ў студэнта класіфікуецца Крымінальным кодэксам як вымагальніцтва.

* * *

Пасля мітынгу ў падтрымку Пуціна Паклонную гару перайменавалі ў Нізкапаклонную.

* * *

Народ цяпер, перш чым дапамагчы чалавеку ў бядзе, спачатку здымае гэтую бяду на тэлефон.

* * *

Першамайскае РУУС арганізуе лыжныя гонкі для падлеткаў. Каго спецназаўцы дагоняць, тыя правядуць незабыўныя суткі ў абязьянніку.

* * *

Таблічку «Львоў не карміць!» на клетцы ў заапарку ўсе чыталі. І толькі вартаўнік ведае, што з адваротнага боку напісана: «Людзей не есці!»

* * *

У мяне на балконе лядзяш расце, проста над машынай, якая сігналіць кожную ноч. Я гэты лядзяш штодня з чайніка падкормліваю.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Па ўсёй Расеі пачынаюць ужо людзі кратацца каля выбараў у Чацвёртую Думу.** Усе партыі збіраюцца з сіламі — быццам перад вялікай бітвай. Ужо цяпер відаць, якія партыі могуць дастаць больш галасоў.

**«НН». №6. 1912.**

**У студзені адбылася знакавая для беларускіх карыстальнікаў сеціва падзея:** пошукавік №1 у інтэрнэце — Google — загаварыў па-беларуску. Дагэтуль сярод папулярных інтэрнэт-рэсурсаў беларускай мовай карыстаўся толькі партал надвор'я wunderground.com. Google быў запушчаны тры гады таму, ён шукае сярод 1,6 мільярда сайтаў на сямі дзясятках моваў.

**«НН». №6. 2002.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 14.02.2012.
Замова №702.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 12006